УДК 908(476.1)
ББК 28.89(4Беи)
Н56

**Несцярэнка,** Ю.
Н56 Маё мястэчка ў часе і прасторы / Юры Несцярэнка. — Мінск : Зміцер Колас, 2015.— 128 с. [іл.]
ISBN 978-985-6992-81-3.

Даследуючы мінуўшчыну і сучаснасць родных Бялыніч, музыка і літаратар Юры Несцярэнка праяўляе немалы талент і як краязнаўца. Зборнік змяшчае шэраг дасціпных нарысаў, прысвечаных назвам вуліц мястэчка, найбольш цікавых яго мясцін і адметнасцяў, а таксама невялікі раздзел «сацыяльна-філасофскіх» развагаў пра сцежкі-дарожкі-бялыніцкія тратуары.

Адрасуецца ўсім, хто цікавіцца краязнаўчымі пытаннямі і ў першую чаргу – жыхарам Бялыніччыны.

УДК 908(476.1)
ББК 28.89(4Беи)

ISBN 978-985-6992-81-3.

# ПРАДМОВА

Рукапіс на паўтары сотні старонак «Маё мястэчка ў часе і прасторы» мала вядомага мне бялыніцкага краязнаўцы, але вядомага перакладчыка, музыканта Юрыя Несцярэнкі быў перададзены аўтарам з рук у рукі ў красавіку 2015 года. Верагодна, я б адмовіўся ад яго прагляду з прычыны празмернай занятасці, шчыльнага графіку працы ў якасці дэкана факультэта прыродазнаўства, але напярэдадні сустрэчы з аўтарам яго парэкамендаваў мне гісторык Алесь Агееў, ды і стала цікава, што новага я даведаюся аб Бялынічах...

Чаму я ўзяўся за ўнясенне паправак у рукапіс? Хранолага-харалагічныя аспекты мястэчак Беларусі мяне цікавяць даўно з пункту гледжання культурнай геаграфіі. Мястэчкі – гістарычны тып паселішчаў Беларусі з XV ст. да 1938 года (у Заходняй Беларусі – да 1940), які ўвабраў у сябе пераходныя рысы вёскі і горада, пэўны рэгулятар адносін у сістэме горад-сяло, своеасаблівы перадатачны механізм, ураўняльнік. Мястэчкі – маркер урбаністычнай мадэлі, якая склалася ва ўсёй Цэнтральнай і Заходняй Еўропе. Мястэчкі рабілі Беларусь еўрапейскай краінай. На пачатку XX ст. у межах Беларусі налічвалася 325 гарадскіх паселішчаў, у тым ліку мястэчак – 280. Першы магутны ўдар па мястэчках нанеслі чыгункі, якія будаваліся з XIX ст., затым – савецкая ўлада, калектывізацыя сельскай гаспадаркі, індустрыялізацыя гарадоў, і нарэшце, апошняя вайна (фактычна мястэчкі як поліэтнічны тып паселішчаў зніклі да 1944 г.). З краін былога СССР мястэчкі як тып паселішчаў рэанімаваны ў Літве і часткова ў Расіі. Маем надзею, што і ў Беларусі яны будуць адноўленыя. Захар Шыбека вывеў формулу: «Ёсць мястэчкі – ёсць Беларусь, няма мястэчак – няма Беларусі».

Чытанне ўжо з першых старонак прынесла мне шмат радасцяў, даставіла эстэтычнае задавальненне, асалоду. Прыйшлося адкласці ў бок адміністрацыйныя пытанні на працы. Перш за ўсё, мне спадабаўся прадуманы змест, знайшоў цікавымі фотаздымкі (іх больш за 100 з 139 ілюстрацый), шматлікія факты, як, напрыклад, пра лёс бялыніцкага дуба-волата, падкупілі мяне даступныя мова і стыль выкладання, рамантызм самога аўтара і некаторыя іншыя рэчы, пабудова матэрыялу ў выглядзе падарожжа ў часе і прасторы, павага аўтара да чытача, занепакоенасць лёсамі гістарычнай і прыроднай спадчыны.

Так ужо склалася ў маёй навуковай біяграфіі, што больш за 20 гадоў, пачынаючы з 1993 г., прысвяціў сябе збору дадзеных аб геаграфічных аб'ектах (з назвамі да ўзроўню мікратапонімаў) Магілёўскай вобласці. Іх было зафіксавана каля 62 тысяч, і толькі каля 21 тысячы ўвайшлі ў трохтамовае выданне «Геаграфічна-статыстычны слоўнік Магілёўскай вобласці» (Магілёў, 2012–2013, каля 700 с.). Зыходзячы са сцвярджэння акадэміка Ізмаіла Іванавіча Сразнеўскага, што «поўных слоўнікаў не бывае», пастаянна ўношу дапаўненні ў свой слоўнік, са спадзевам на перавыданне ў бліжэйшыя дзесяцігоддзі. Чытаючы рукапіс Юрыя Несцярэнкі, знайшоў у ім з дзясятак новых назваў аб'ектаў! Гэта яшчэ больш падагрэла інтарэс да даследавання.

Напрыканцы верасня 2015 года ў «СБ-сёння» прачытаў водгук Людмілы Рублеўскай на кнігу Ю. Несцярэнкі «Звычайны шоу-бізнес», зноў здзівіўся таму, наколькі пладавіты выдаўся ў Юрыя юбілейны год (яму 50!), задаўся пытаннем: «Як у яго ўсё атрымліваецца? Хапае на ўсё часу?». Літаральна праз пару-тройку дзён тэлефануе Юры і дамаўляецца аб новай сустрэчы са словамі «я перапрацаваў рукапіс па Бялынічах». Сустрэліся. Абмеркавалі папярэдне рукапіс. Даў згоду напісаць пра свае ўражанні аб новай кнізе. З удзячнасцю прыняў падарунак – кнігу «Звычайны шоу-бізнес», на апошняй вокладцы якой прачытаў: «Юры Несцярэнка – літаратар, музыкант, аўтар і выканаўца, стваральнік гуртоў White Night Blues, Nestary Band… Піша прозу, публіцыстыку, перакладае з англійскай, польскай, украінскай, рускай моў…»

Рукапіс «Маё мястэчка ў часе і прасторы» змяшчае ўступнае слова аўтара, пяць нарысаў-«вандровак у пэўным часе і вызначанай прасторы» з прыцягальнымі назвамі «Спадчына ў назвах», «На даху свету», «Трымацца каранёў», «З усмешкай пра сцежкі», «Друць як частка Сусвету». Але ёсць і яшчэ адна частка – пра Заазер'е.

Аўтар меў на мэце адлюстраваць і пераасэнсаваць некаторыя старонкі вядомай і невядомай гісторыі мястэчка Бялынічы («часам прадказальныя, а калі-небудзь – вельмі нечаканыя»), і гэта яму, лічым, удалося. Сваю кнігу Ю. Несцярэнка прысвячае сваім землякам.

Усе фотаздымкі, планы, схемы – маюць тлумачэнні аўтара. Шматлікія з іх – парныя, каб паказаць храналагічную дынаміку таго ці іншага аб'екта, з'явы.

У нарысе «Спадчына ў назвах» аўтар пытаецца ў сябе, у сваіх землякоў-бялынічанаў: «Што нам пакінута і што мы маем?», «Што застанецца пас-

ля нас?» Адказ на першае пытанне сумны: у старажытным мястэчку з Магдэбургскім правам амаль не засталося вуліц, якія ў сваіх назвах адлюстроўвалі б яго багатую гісторыю, дзеянні гістарычных асоб, амаль не засталося значных помнікаў архітэктуры, прыроды, значных сведчанняў пра Сапегаў, Радзівілаў, Агінскіх. Застаецца ўражанне, што Бялынічы існавалі толькі за камуністычным часам – вуліцы Леніна, Энгельса, Кірава, Калініна, Чапаева, Горкага.., «40 год Перамогі», «50 год Кастрычніка», «60 год Кастрычніка», «70 год Кастрычніка» і г. д., што «бацькі» горада не бачаць «шэрасці», не разумеюць непаважлівыя адносіны да гісторыі ў назвах Першамайская, Чырвонаармейская, Піянерская, Сялянская, Савецкая, Камуністычная… Праўда, з’явіліся вуліцы Еўфрасінні Полацкай, Францыска Скарыны, Максіма Багдановіча, Пімена Панчанкі, Льва Сапегі, Канстанціна Астрожскага, Казіміра Чарноўскага, але іх доля сярод гадонімаў (унутрыгарадскіх аб’ектаў) вельмі малая. З усёй адказнасцю, любоўю, павагай да гісторыі аўтар прыводзіць сведчанні пра вуліцу Садовую (назва ад «Панскі сад»; даецца план кляштара кармелітаў і сядзібы Агінскіх), звязвае яе «біяграфію» з маёнткам, якім валодалі Сапегі, Радзівілы, Агінскія.

Каб адказаць на другое пытанне, аўтар разважае над верагоднай мадэллю назваў, якія павінны захавацца. Сярод іх такія трапныя, сакавітыя назвы, як Гай, Ліпавы Гай, Глінішча, Вежа, Слабада, Польскія могілкі, Жыдоўскія кладовішчы, вуліца Татарская, Задруцкая Слабада, Слабада, Сьвінтар (Цьвінтар), Курган, Сажалка, Дуб і г. д.

Аўтар параўноўвае сваё ўзыходжанне на вышэйшую кропку гістарычных Бялынічаў гару (пагорак; насамрэч – бугор) Сьвінтар (Цьвінтар) з уражаннем, што стаіш «На даху свету» (звычайна разумеюць Тыбет, Эверэст, зрэдку – Памір, іншыя значныя вяршыні свету, а тут – мястэчка!).

Аўтар дае падрабязны план знаходжання ў геаверсуме, тлумачыць назву гары як адпаведнік слову «могілкі», выказвае гіпотэзу, што яна магла звацца Перуновай Гарой, разважае аб гэтым святым месцы мястэчка і аб тым, што назоўнік «сьвята» і прыметнік «сьвяты» маюць адно і тое ж сэнсавае паходжанне. «А яшчэ свет і святло. Сусвет і сусветны. Менавіта з гэтымі словамі звязаны ўражанні, калі трапляеш на самы верх пагорка…».

Наступны якасна ілюстраваны нарыс «Трымацца каранёў» распавядае чытачам пра сімвал моцы і непахіснасці – дубы Беларусі, культ дуба, які перайшоў ад кельтаў да беларусаў, аб бялыніцкім дубе-волаце і яго трагічным лёсе (вандалы спілавалі яго ў 5 гадзін раніцы 1 траўня 2005 г.; навошта – дакладна патлумачыць не можа ніхто).

Частка кнігі «З усмешкай пра сцежкі» ўключае аўтарскія разважанні «Сцежка першая і галоўная», «Зусім іншая сцежка», «Сцежка ў нікуды» (з гумарам пераасэнсоўваецца савецкая спадчына), «Сцежка Бялына», «Згубленая сцежка», «Сцежкі «да высокіх інстанцый», «Крышку дарожнага постмадэрнізму», «Добрай дарогі!». Аўтар заўважае сугучча ў імёнах Бялуна-Белабога і летапіснага спадара Бялына. Лічыцца, што менавіта Бялынічы – нашчадкі міфічнага Бялына, спасылаецца ў сваім меркаванні на запісы іераманаха Васілія (Жудро), на артыкул у «Магілёўскіх губернскіх ведамасцях» за 1900 г. У гэтым нарысе з ironіяй апавядаецца аб барацьбе мясцовай улады з «несанкцыянаванымі» ёю сцежкамі, аб непісьменнасці тых, хто змяшчае абвесткі на забарону праходу па іх.

У гідранімічнай одзе «Друць як частка Сусвету» Юры Несцярэнка разглядае семантыку назвы ракі, асэнсоўвае гісторыю авалодання насельніцтвам прасторы басейну ракі. Яму ў гэтым дапамагаюць спасылкі на антычных гісторыкаў, аповеды пра кельтаў, звесткі з «Аповесці мінулых гадоў». Ён пералічвае версіі, звязаныя з летапісным Галацічаскам (у адной з іх на ролю гэтага загадкавага гістарычнага аб'екта прэтэндуе Галоўчын на Вабічы, прытоку Друці), як месца пасялення галацічаў, нашчадкаў старажытных галатаў. Аўтар заўважае, што Бялынічы знаходзяцца на міжрэччы, што паняцце «выток» блізка да «ісціна», «вусце» – да «уста, рот» (абгрунтоўваецца з розных моў). Аўтар захапіўся сам і захапляе чытачоў легендай пра кельцкую багіню, кельцкае паходжанне назвы Друць.

Акрамя заяўленых у змесце нарысаў, ёсць яшчэ матэрыял аб Заазер'і, цудах Заазерскага лесу – «Легенда з прадмовай Плінія» з апавяданнем пра Стоўнхэндж (вядомыя і некалькі беларускіх падобных комплексаў – напрыклад, у Бікульнічах пад Полацкам), «Ад сусветна вядомых загадкавых камянёў да мясцовай таямніцы, ці Пра што нагадвае нам Заазерскі лес?», «Легенда пра Заазерскую чараўніцу».

Чакаю найхутчэйшага выхаду кнігі з друку! Усім прыемнага чытання! Маю спадзеў, што падобныя нарысы аб мястэчках у хуткім часе будуць напісаны ва ўсіх раёнах вобласці, краіны! Аўтару пажадаю моцнага здароўя, аптымізму, здзяйснення мрояў, новых творчых праектаў!

*Ігар Шаруха,*
*старшыня Магілёўскага абласнога аддзела*
*ГА «Беларускае геаграфічнае таварыства»,*
*кандыдат педагагічных навук, дацэнт*
*08-11.10.2015, Магілёў-на-Дняпры*

# АД АЎТАРА

У кнізе, якую вы трымаеце ў руках, з дапамогай запісаных звестак і сабраных фотаздымкаў, паўстае вядомая і невядомая гісторыя Бялыніч. Часам прадказальная, а калі-небудзь – вельмі нечаканая.

У першую чаргу кніга прысвячаецца жыхарам мястэчка – бялынічанам, на лёсах якіх, па сутнасці, і трымаецца яго доўгая гісторыя. Хоць сам па сабе сабраны матэрыял – не пра людзей, а пра добра вядомыя ўсім мясціны Бялыніч. Такія звычайныя і незаўважныя, але, калі прыгледзецца, то колькі яны могуць распавесці пра гістарычныя падзеі ды ўдзельнікаў гэтых падзей…

Усё пачалося з колішняй прапановы журналіста Міхася Карпечанкі напісаць для краязнаўчай канферэнцыі даклад. На той момант я ніякім чынам не ўяўляў сябе спецыялістам па краязнаўчых матэрыялах, пра што шчыра і сказаў Міхасю Аляксеевічу. «Напішы на любую тэму, якая табе цікавая», –параіў дасведчаны краязнаўца. Так з’явіўся адзін з першых артыкулаў «Спадчына ў назвах нашых вуліц». Цалкам ён быў надрукаваны ў «Краязнаўчай газеце» №23 і №24 за 2006 год. Потым былі наступныя матэрыялы, якія друкаваліся і ў рэспубліканскай, і ў абласной прэсе. Таксама з’яўляліся краязнаўчыя артыкулы ў раённых газетах «Зара над Друццю» і «Паходня». З іх было адабрана пяць – гэтыя артыкулы былі дапрацаваныя і дапоўненыя, і сталі раздзеламі кнігі, што прапануецца вашай увазе.

Асобнае месца ў гэтай кнізе займае калекцыя фотаздымкаў. Яе можна і нават патрэбна разглядаць, не прывязваючыся да тэксту. Шэраг фотавыяваў суправаджае кожны артыкул і, за выключэннем некалькіх выпадкаў, толькі ўскосна ілюструе інфармацыйныя блокі.

Яшчэ хочацца сказаць пра стылістычныя адрозненні матэрыялаў паміж сабой. Пісаліся яны ў розныя часы і для розных выданняў. Адпаведна з розным настроем і падыходам. Таму стылістычная цэласнасць кнігі крыху пашырана. Але галоўная мэта гэтых нататкаў не дакументалізацыя і сухое выкладанне фактаў у адной манеры. Аўтарскія назіранні сумяшчаюцца тут з агульнавядомай інфармацыяй праз магчымасці мастацкага слова.

Спадзяюся, што для чытача будзе цікавай гэтая вандроўка – у пэўным часе і вызначанай прасторы.

*Юры Несцярэнка*



*Адзін з першых фотаздымкаў бялыніцкіх вуліц.*



*Тое самае месца прыкладна праз стагоддзе. Цяперашняя вуліца Ленінская.*

# СПАДЧЫНА Ў НАЗВАХ

Дзіўны адрас на паштоўцы, незвычайная назва вуліцы ў незнаёмым мястэчку, месца пражывання сваякоў, якое даўно ўжо прыцягвае ўвагу – часам так карціць дазнацца пра гісторыю іх паходжання. Гэтыя ўражанні знаёмыя многім з нас. Але за будзённымі турботамі забываемся спытацца пра назву, што так зацікавіла, заклапочаныя бясконцымі справамі, не згадваем пра адрас пасля адпраўкі канверта. Аднак ніхто не адмяняе нам магчымасці ўсё ж правесці невялікае даследаванне – тут, як кажуць, усё ў нашых руках. І цікавыя вынікі не прымусяць доўга чакаць.

## Што нам пакінута і што мы маем

У невялікім мястэчку Бялынічы, што месціцца на трасе Мінск – Магілёў, амаль што не засталося вуліц, якія ў сваіх назвах адлюстроўвалі б яго старажытную гісторыю. Хаця ў свой час Бялынічы валодалі Магдэбургскім правам (самакіраванне, уласны герб і сцяг). Грандыёзны будынак былога касцёла кармелітаў, гістарычны і культурны помнік XVIII стагоддзя, калісьці ўпрыгожваў скрыжаванне галоўных вуліц і месціўся ў самым цэнтры Бялыніч. Вядомыя людзі, знакавыя асобы ў гісторыі Беларусі ў свой час валодалі мястэчкам і кіравалі мясцовым жыццём – прадстаўнікі знакамітых родаў князёў Сапегаў, Радзівілаў, Агінскіх. Выхадцы з мястэчка ўдзельнічалі ў грамадскіх і палітычных працэсах сваёй краіны. Прадстаўнікі іншых нацыянальнасцяў насялялі мястэчка – пра што сведчаць толькі старажытныя назвы «польскія могілкі», «кладовішча жыдоўскія», вуліца Татарская, што існавала ў XVII стагоддзі. Няшмат чаго з гэтай багатай на падзеі гісторыі захавалася ў назвах, якія сталі аб’ектам нашай увагі.

І толькі апошняя эпоха – сямідзесяцігадовая гісторыя савецкай дзяржавы, як і ў любым іншым мястэчку Беларусі, прадстаўлена ў Бялынічах выдатна: поўным зборам прозвішчаў у назвах вуліц ад тэарэтыкаў і практыкаў сацыялізму – Ленінская, Энгельса, Карла Маркса (апошняя перайменаваная ў 2000-х у гонар былога жыхара гэтай вуліцы, Героя Савецкага Саюза М. Кітаева (рускі па паходжанні, нарадзіўся ў Валгаградскай вобласці) да грамадска-палітычных і ваенных дзеячаў рэвалюцыйных часоў – С. Кірава, М. Калініна, В. Чапаева, М. Горкага; Герояў Савецкага Саюза часоў Вялікай



*Вуліца Калініна ў 1960-я.*



*Сучасны выгляд вуліцы Калініна з таго самага месца.*

Айчыннай вайны з ідэалагічна выверанага спісу: К. Заслонава, Б. Хігрына, Л. Лорчанкі, С. Церашкевіча; ваеннакамандуючага Якубоўскага, партызана Грышына, лётчыка Чкалава, першага савецкага касманаўта Гагарына. А таксама пералікам савецкіх юбілеяў: «40-годдзя Перамогі» («40 лет Победы»), «50-годдзя Кастрычніка» («50 лет Октября»), «60-годдзя Кастрычніка» («60 лет Октября»), «70-годдзя Кастрычніка» («70 лет Октября»).

Далейшы спіс бялыніцкіх вуліц не вызначаецца арыгінальнасцю: Першамайская, Чырвонаармейская, Абаронная, Піянерская, Сялянская (Крестьянская), Савецкая, Камуністычная – такія назвы сустракаюцца практычна ў кожным беларускім мястэчку. Хоць ёсць у гэтым спісе і цікавыя выключэнні. Гэта завулак, назву якога мясцовыя жыхары вымаўляюць як «Чаноўскі». Калі ўдакладніць напісанне, напрыклад, па тых жа гарадскіх тэлефонных даведніках 1990-х і 2000-х гадоў – там пазначана «переулок Ченовский». Як высветлілася, гэта не вытворнае ад нейкага прозвішча ці назвы, а трансфармаванае з даваенных гадоў назва завулка «ЧОНовский» (ад абрэвіятуры ЧОН – «Часть Особого Назначения»). Так называліся адмысловыя «дружыны», якія ствараліся пры партыйных арганізацыях прадпрыемстваў і ўстановаў для ўсталявання «дыктатуры пралетарыяту» пасля 1917 года і існавалі да сярэдзіны 20-х гадоў XX стагоддзя. Напэўна, калі паходжанне назвы згубілася (мабыць, асабліва ніхто ўжо не быў зацікаўлены ў яго існаванні), вымаўленне слова «Чоновский» стала нагадваць мясцовы дыялект, таму і з'явілася патрэба русіфікаваць гэту назву як «ЧенОвский»*.

Дарэчы, сённяшняя вуліца Пушкіна ў 50-я гады мінулага стагоддзя насіла назву «Міліцэйская». Цяпер яна сутыкаецца з Паштовай і стварае Т-падобнае скрыжаванне. А раней, працягваючыся за Паштовую, прыкладна ўздоўж сучаснага Цэнтра культуры, утварала скрыжаванне з Савецкай.

* Ёсць меркаванне, што, магчыма, у даваенны час была нейкая «разнарядка сверху» па Магілёўшчыне, якая датычылася розных назваў і імёнаў з гісторыі краіны саветаў, звязаных з сілавымі ці тэрарыстычнымі структурамі – якія трэба было адлюстраваць у назвах вуліц. Напрыклад, у суседнім з Бялынічамі мястэчку Круглае існуе вуліца Мопраўская (гл. МОПР – Международная Организация Помощи Революционерам = Міжнародная Арганізацыя Дапамогі Рэвалюцыянерам). У шмат якіх населеных пунктах Шклоўскага раёна да сённяшняга дня існуюць вуліцы імя Маісея Саламонавіча Урыцкага (знакамітага старшыні арганізацыі «Петроградская ЧК» (Петраградская Надзвычайная Камісія па барацьбе з контррэвалюцыяй і сабатажам) – у вёсках Бель, Барсукі, Еўдакімавічы, Лавы, Лапічы, Локуці, Махавое і шмат якіх іншых.

На гэтым месцы была рынкавая плошча. Далей лінія вуліцы працягвалася, але мела іншую назву. Яе кавалак захаваўся і сёння – калісьці ён выходзіў да царквы, якую зруйнавалі ў 1960-х, і працягваўся да цяперашняй вуліцы Кірава, па лініі сучаснага Піянерскага завулка. На месцы царквы пабудавалі памяшканне пажарнай аховы. Цяпер там знаходзяцца гаражы і падсобныя памяшканні аддзела культуры.

Адыходзячы ад узнёслай ваенна-рэвалюцыйнай тэматыкі, вяртаемся на родную зямлю – зразумела, што ў мястэчку павінны быць і іншыя вуліцы. У назвах некаторых з іх у Бялынічах ушанавана памяць загінулых ці памерлых землякоў: ёсць вуліцы імя Целешава, міліцыянта, які загінуў пры затрыманні злачынца (да першай паловы 1970-х вуліца называлася Школьнай, таму што насупраць ваенкамата, на месцы цяперашняга дзіцячага садка №3, да 1962 года знаходзілася сярэдняя школа №2); В. А. Дайнекі (былы кіраўнік раённых электрасетак, трагічна загінуў і зараз яго імя носіць вуліца, на якой месціцца арганізацыя); Мікалуцкага, кіраўніка дзяржкантролю па Магілёўскай вобласці ў сярэдзіне 1990-х, супраць якога быў арганізаваны тэракт – ён загінуў пры выбуху бомбы ва ўласным пад'ездзе; Кітаева (згадваўся вышэй); Людвіга Сяліцкага, ураджэнца вёскі Трылесін, аднаго з памочнікаў Канстанціна Заслонава; Іосіфа Свідзінскага, адзінага ўраджэнца Бялыніцкага раёна – Героя Савецкага Саюза.

Класікі літаратуры прадстаўлены ў назвах вуліц мястэчка ў лепшых савецкіх традыцыях і ў строга выверанай прапорцыі: расейцы – Пушкін, Лермантаў, Някрасаў, Маякоўскі, Астроўскі; беларусы – Янка Купала, Якуб Колас.

Новы час прынёс разуменне сваёй гістарычнай годнасці. На пачатку 90-х мінулага стагоддзя з'явіліся вуліцы імя Еўфрасінні Полацкай (унучкі Усяслава Чарадзея, аднаго з найславуцейшых валадароў нашай зямлі). Еўфрасіння шануецца як святая і лічыцца нябеснай ахоўніцай Беларусі. Дзякуючы актыўнай дзейнасці свядомых беларусаў з'явіліся вуліцы імя першадрукара Францыска Скарыны, беларускіх паэтаў Максіма Багдановіча і Пімена Панчанкі, выбітных дзеячаў Вялікага Княства Літоўскага – Льва Сапегі (з'яўляўся ўладальнікам Бялыніч у XVII стагоддзі) і знакамітага палкаводца Канстанціна Астрожскага з роду князёў Друцкіх (з яго прозвішчам пачынаюць адбывацца недарэчнасці – у некаторых цяперашніх спісах вуліц пішацца «вуліца Астражэўскага»), ёсць вуліца імя Казіміра Чарноўскага, ураджэнца Бялыніцкай зямлі (нарадзіўся ў шляхецкай сям'і ў в. Карытніца) – першага вынаходніка падводнай лодкі, які быў звязаны




*Фатаздымак зроблены з царквы (былога касцёла).*



*Тое самае месца. Сучасны выгляд вуліцы Савецкай.*

з антыманархічнымі арганізацыямі і за падрыўную дзейнасць асуджаны царскім урадам на пачатку XIX ст., доўгія гады правёў у Петрапаўлаўскай крэпасці, дзе і распрацаваў ідэю падводнага судна.

Як бы адзначаючы супярэчлівасць часу, адна з новых вуліц носіць імя Дзяніса Давыдава, які ў вайну 1812 года вандраваў са сваім партызанскім атрадам па лясах Бялыніччыны, а па некаторых звестках нават вызваліў Бялынічы ад непрыяцеля (яго непрыяцелем, як вядома, і былі самі бялынічане).

Музей імя знакамітага мастака Вітольда Каэтанавіча Бялыніцкага-Бірулі існуе ў Бялынічах з 1970 года. Вуліца, названая яго іменем, з'явілася ў другой палове 1970-х.

Якое дачыненне меў да Бялыніч Мічурын – невядома, аднак адна з галоўных вуліц названа ў яго гонар. Гэта, напэўна, таксама пеажытак нядаўняй мінулай эпохі – у савецкія часы выдатны селекцыянер чамусьці быў вельмі папулярнай фігурай – у шмат якіх беларускіх населеных пунктах «увекавечана» яго прозвішча.



*Від на скрыжаванне Савецкай*
*і былой вуліцы Школьнай у сярэдзіне 1960-х*
*(цяпер вуліца Целешава).*

На тэрыторыі Беларусі да пачатку XX стагоддзя была распаўсюджана традыцыя называць вуліцы суадносна з геаграфічным месцазнаходжаннем, а таксама з найбольш вялікім і значным аб'ектам ці будынкам, каля якога або праз які праходзіла вуліца. У Бялынічах гэтая традыцыя часткова захавалася: вуліца Мокраўская пралягае ў напрамку на Мокравічы, Круглянская – на Круглае, «Минское шоссе» – у менскім накірунку. Таксама геаграфічны момант прысутнічае ў назвах 1-я і 2-я Усходнія (Восточные), Заходняя (Западная), завулак Паўночны (Северный), такім чынам нібыта дапамагаючы пэўнай частцы насельніцтва вызначыцца з накірункам руху. Лугавая, Задруцкая, Набярэжная (Набережная), Зарэчная знаходзяцца ў раёне ракі Друць. Лясная праходзіць уздоўж лесу на ўскрайку Бялыніч. У раёне старога крухмальнага завода пралягае Заводская. Індустрыяльнае адценне ў сваіх назвах маюць вуліцы Будаўнікоў (Строителей) – у раёне арганізацыі МПМК-241, работнікі якой пабудавалі ўсе дамы на гэтай вуліцы і Саўгасная (Совхозная), што пралягае каля машыннага двара былога саўгаса «Бялынічы».



*Вуліца Мокраўская.*



*Вуліца Савецкая ў 1950-я гады. Двухпавярховы белы будынак (на рагу Садовай і Савецкай, на здымку справа) – колішняе «элітнае» жыллё.*



*На сучасным фасадзе таго самага будынку, на скрыжаванні цяперашніх Садовай і Савецкай, відаць затынкаваныя рэшткі параднага ўваходу і двух балкончыкаў на другім паверсе (над крайнімі вокнамі злева і справа).*



*Від на старую пошту і скрыжаванне вуліц Паштовай і Ленінскай (1950-я, здымак з былога манастыра).*

Ёсць у Бялынічах яшчэ шэраг рамантычных сучасных назваў вуліц, кшталту Кветкавая (Цветочная), Сонечная, Прасторная, Светлая, Маладзевая (Молодёжная), Прывольная, а таксама Беларуская і Славянская. Але вуліцы ў назвах якіх захаваліся сапраўдныя гістарычныя асаблівасці мястэчка, гэта – Паштовая і Садовая.

Першая – невялічкая вуліца, якая, цалкам адпавядаючы сваёй назве, у ранейшыя часы праходзіла ад былога будынка старой пошты (пабудаваны ў 10-х гадах XX стагоддзя, разбураны ў 90-х тога ж стагоддзя), а цяпер ад будынка сучаснага паштамта (пабудаваны напрыканцы 70-х XX ст.) да Т-падобнага скрыжавання з Садовай. Апошняя вуліца мае цікавую і, можа быць, у пэўным сэнсе нечаканую гісторыю.






*Панарама цэнтра Бялыніч з вуліцай Садовай (канец 1950-х – пачатак 1960-х). На заднім плане шэраг пабудаваных пасля вайны двух- і трохпавярховых будынкаў: 1. Камбінат бытавога абслугоўвання; 2. Дом культуры; 3. Жылы дом на Савецкай; 4. Універмаг; 5. Драўляная крама на месцы сённяшняга ўніверсама «Родны кут»; 6. Рэстаран «Друць» (цяпер кафэ); 7. Рэшткі былой царквы; 8. Былы каталіцкі кляштар (пазней на яго месцы было пабудаванае памяшканне пажарнай службы, цяпер гаспадарчыя памяшканні аддзела культуры). Да пачатку XIX ст. царкоўныя будынкі выконвалі функцыі дакладна наадварот (№7 быў каталіцкім манастыром, у №8 месцілася праваслаўная царква); 9. Былая пракуратура; 10. Дом сям'і Шагавых па вул. Садовай (цяпер на гэтым месцы ўезд у двор райвыканкама).*





*Тая самая панарама праз паўстагоддзя (злева новы будынак пракуратуры, далей пашыраны будынак Камбіната бытавога абслугоўвання; на заднім плане новы будынак Цэнтра культуры; адсутнічаюць будынкі царквы і кляштара; па цэнтры здымка былы будынак пракуратуры, цяпер прыватны дом).*

## Ад Садовай вуліцы да панскага саду і былога маёнтка

Справа ў тым, што ў Бялынічах на месцы цяперашняй Садовай (а дакладней, той паловы вуліцы, якая ідзе ад цэнтральнай Савецкай, уніз у напрамку да ракі Друць) да рэвалюцыі 1917 года сапраўды быў вялікі сад. Як яго называлі старажылы – «Панскі сад».

Тут незвычайнае ў тым, што ў назве гэтай вуліцы, за гады савецкай улады, не была вынішчана спасылка на дарэвалюцыйную мясцовую гісторыю. Гэта можна назваць унікальным выпадкам, таму што, на вялікі жаль, сёння не захавалася ніводнай назвы, якая хоць бы ўскосна нагадвала пра старадаўнюю гісторыю мястэчка (акрамя, можа, невялічкага неперасыхальнага вадаёма з мясцовай назвай «Глінішча» ды вялізнага кургана, які называюць «Сьвінтар» (захоўваем мясцовы варыянт вымаўлення, у адрозненне ад прынятага ў Заходняй Беларусі «цвінтар»).

Калі ўзяць за ўмоўны квадрат тэрыторыю, якую акрэсліваюць вуліцы Савецкая, Абаронная, Кірава і Садовая, што ў цэнтры Бялыніч, то, прыкладна, у сярэдзіне гэтага чатырохкутніка знаходзіцца трохпавярховы будынак. Гэта – былая агульнаадукацыйная школа (СШ №2), якая была пабудавана ў 1962 годзе і функцыянавала па прамым прызначэнні да сярэдзіны 80-х мінулага стагоддзя.

Да 1917 года прыблізна на гэтым месцы знаходзіўся панскі маёнтак, уладальнікамі якога ў розныя часы былі Сапегі, а пазней Радзівілы і Агінскія. З боку цэнтральнай вуліцы мястэчка перад фасадам будынка (з усходняга боку), уся тэрыторыя была засаджана ліпамі. З тыльнага боку маёнтка, дзе адкрываўся від на Друць (заходні бок), знаходзіўся сад і праз яго ішла невялікая ліпавая алея – своеасаблівы задні пад’езд да панскага двара. Рэшткі старых ліп засталіся да сённяшняга дня.



*Кажуць, што гэта было апошняе дрэва былой ліпавай алеі з тыльнага боку фальварка. Калісьці ў яе ўдарыла маланка і шмат гадоў яна стаяла з выгаралым наскрозь дуплом. Ліпа была нібыта «прыпалена», але здолела яшчэ пакрыцца лісцем. Пасля таго, як гнілая драўніна выгарала знутры, дрэва стала вельмі цвёрдым. Што, напэўна, і дазволіла ёй пратрымацца болей за іншыя дрэвы. На здымку, злева, бачны пень ад яшчэ адной старой ліпы.*




*Сярэдзіна 1960-х. Від на Садовую да скрыжавання з Кірава (прыкладна тут пралягала паўднёвая і заходняя мяжа панскага сада). Лічбамі пазначаны дамы, пабудаваныя пасля II Сусветнай вайны, дзе пражывалі сем'і: 1. Чарняковых; 2. Сідаровічаў; 3. Садоўскіх; 4. Смалякоў; 5. Кошалявых; 6. Сідаравых; 7. Гарадское спажывецкае таварыства (ГорПО). Далей жылі сем'і: 8. Новікавых; 9. Цымбарэвічаў; 10. Арлоўскіх.*



*Здымак таго самага месца ў 2014 годзе. Змяніўся выгляд саміх дамоў, у большасці выпадкаў змяніліся іхныя ўладальнікі.*

Недалёка ад месца, дзе калісьці месціліся будынкі фальварку, пасля II Сусветнай вайны было пабудавана памяшканне райвыканкама. Яно ў добрым стане захавалася да сённяшняга дня – тут цяпер месціцца адукацыйна-рэабілітацыйны цэнтр раённага аддзела адукацыі.



*Некаторыя аддзелы райвыканкама размяшчаліся тут напрыканцы 1940-х.*



*Той самы будынак у 2015 годзе (Адукацыйна-рэабілітацыйны цэнтр).*

Тры старадаўнія будынкі нагадваюць аб межах тэрыторыі маёнтка з паўночнага боку. Першы будынак захаваўся ад тэрыторыі адмысловага комплексу па наглядзе за жывёламі. Тут раней, як да рэвалюцыі, так і пасля была ветэрынарная лякарня, стайня, племстанцыя ды іншыя ўстановы і пабудовы, звязаныя з утрыманнем і лячэннем хатняй жывёлы.



*Былая ветэрынарная станцыя*

Другі – былы заводскі будынак, так званая «Вежа» (зараз яго ўладальнікам з'яўляецца царква «Новае жыццё»). Па розных звестках, дастаткова супярэчлівых, да рэвалюцыі тут знаходзіўся: альбо спіртзавод, альбо цукровы завод, альбо бровар. Магчыма, што ў розныя часы гэтае невялічкае памяшканне выконвала якія-небудзь з пералічаных функцый. Дакладна вядома, што перад Другой сусветнай вайной і ў пасляваенныя часы тут знаходзіўся хлебны завод, а потым маслазавод (у народзе будынак называлі «маслабойка»).



*Так званая «Вежа». Добра бачны былы ўезд, на здымку закладзены цэглай. Прадугледжваўся для заезду ўнутр гужавога транспарту пад загрузку вырабаў (у часы, калі будынак выкарыстоўваўся як вытворчае памяшканне).*

Трэці будынак таксама мае дачыненне да вытворчых памяшканняў. Ён апынуўся на тэрыторыі былой «ніжняй базы» (так называлася спецыяльна абсталяваная тэрыторыя, дзе складзіраваліся і захоўваліся тавары для гандлёвай сістэмы раёна ў савецкія часы (60-я – 80-я XX ст.).

За апошнім будынкам захавалася закінутая сажалка, абнесеная з усіх бакоў земляным валам. З заходняга боку маецца месца, падобнае на заезд для гужавога транспарту.

Усе гэтыя старажытныя будынкі размешчаны па лініі вуліцы Абароннай – тут якраз пралягала паўночная мяжа панскага саду. Па лініі вуліцы Кірава – заходняя мяжа. Ролю жывой загарадзі, якая абкружала сад па перыметры, выконвалі шчыльна пасаджаныя яліны. Далей ніякіх дамоў не было. Забудаваліся гэтыя вуліцы толькі пасля Другой сусветнай вайны.



*Будынак за «Вежай». Верагодна выконваў функцыі падсобнага вытворчага памяшкання.*



*На фрагменце заходняй сцяны «будынка за Вежай» бачна ўязная арка, пазней закладзеная цэглай падобным чынам, як і ў будынку «Вежы».*



*Закінутая сажалка. Верагоднае яе прызначэнне – захоўванне пэўнай колькасці вады для вытворчых мэтаў. З усіх бакоў яе абкружае вал, наперадзе праём, які, магчыма, выкарыстоўваўся як уезд для забору вады.*

На тэрыторыі былога саду, пад зямлёй засталося шмат фрагментаў былых фундаментаў (магчыма, гаспадарчых будынкаў маёнтка), а таксама каналізацыйных каналаў, выкладзеных з чырвонай цэглы.

На поўдзень ад панскага двара быў праход (ці праезд), які перпендыкулярна перасякаў цяперашнюю Садовую вуліцу. Захаваліся звесткі пра штучны вадаём, які месціўся прыкладна на тэрыторыі былой пракуратуры (цяпер прыватны дом) альбо крыху далей, да тэрыторыі піларамы сучаснага камбіната бытавога абслугоўвання. За гэтым вадаёмам пачынаўся вялікі ўзгорак, на якім да першай паловы 60-х гадоў XX стагоддзя захоўваліся рэшткі праваслаўнай царквы (першапачатковае прызначэнне храма, з другой паловы XIX ст. там месціўся каталіцкі касцёл, зараз знаходзяцца гаспадарчыя будынкі аддзела культуры (за раённай бібліятэкай).

Прыкладна па лініі Садовай вуліцы пралягала паўднёвая мяжа панскага саду. У яго паўднёва-заходняй частцы перад апошняй вайной знаходзіўся вялікі курган. Паходжанне яго невядома.

Такія звесткі захаваліся аб былым «панскім садзе», гістарычным месцы, што апынулася аб’ектам нашага невялічкага даследавання. Першапачатковым штуршком да гэтых пошукаў стала этымалогія назвы вуліцы «Садовая».



*Падмуркі, што засталіся ад невядомых будынкаў бліжэй да ветэрынарнай лякарні.*



*Дапытлівыя краязнаўцы вывучаюць падмуркі, што захаваліся на тэрыторыі былога панскага сада прыкладна сто метраў на поўдзень ад тых, што зафіксаваны на папярэднім здымку.*



*Амаль страчаныя артэфакты з іншай эпохі.*





*На здымку злева: канец 1940-х, з глыбіні былога панскага сада – від на ветэрынарную лякарню (белы будынак злева ад маладой пары бялынічан). Уверсе гаспадарчы будынак, падобны на складское памяшканне, за ім бачны ліпавы гай.*

*На здымку справа: 2015 год. Будынак ветлякарні захаваўся. На задім плане, на гары – склады так званай «Верхняй базы», якая належыць гандлёвай арганізацыі «Райста» («Райпо»).*



*Вуліца Садовая ў 2000-я гады.*

## Што застаецца пасля нас

Людзі, якія калісьці ўзяліся рабіць «новую гісторыю», пераймяноўваючы бялыніцкія вуліцы, магчыма, і не разумелі, у якіх памерах яны страчваюць сапраўдную гістарычную спадчыну. Дзякуй таму незнаёмцу, які за савецкім часам выпадкова ці наўмысна дакументальна пакінуў назву «Садовая вуліца». Гэтая адзіная назва хаця б намякае на тое, што найцікавейшая гісторыя Бялыніч пачалася значна раней, чым адбылася Кастрычніцкая рэвалюцыя. Хто адкажа зараз, дзе згубіліся чатыры стагоддзі, што належаць да гісторыі Бялыніч, калі мястэчка пачало згадвацца ў дакументах ВКЛ? Зразумела, што і да першых вядомых упамінанняў Бялынічы мелі сваю гісторыю. Якая магла і павінна была захавацца ў старадаўніх назвах.

## Гістарычная даведка №1

*У 1627 годзе быў складзены інвентар маёнтка Льва Сапегі, цэнтрам якога былі Бялынічы. У ім знаходзілася рынкавая плошча, вакол якой месціліся 12 мяшчанскіх двароў. Ад рынку адыходзілі вуліцы Віленская (42 двары), Ма-*

*настырская (19 дв.), Цяцерынская (20 дв.), Крукава (25), Плітніцкая (56), Татарская (36), Гайная (28), Красная (22). За царквой пралягала Глініцкая (29 двароў), якую называлі Слабадой. Але ж існавала прадмесце за ракой Друць, якое таксама мела назву Слабада (там налічваўся 41 двор).*

*Таксама ў спісе згадваецца, што да «мяшчанскіх гумнаў» ішла новая (магчыма, яшчэ не названая) вуліца з 20 дварамі. Яшчэ адна новая вуліца (6 двароў) вяла да «кладовішчаў жыдоўскіх» (габрэйскіх могілак). Насупраць Плітніцкай была вуліца з 8 дварамі, з якіх 4 былі ўласнасцю царквы Св. Іллі. І нарэшце, за мястэчкам, на канцы ворыўных валок, была закладзена яшчэ адна новая вуліца з 38 дварамі.*

*Усяго Бялынічы налічвалі 361 двор, што лічылася значным паселішчам.*



*Адзін з апошніх будынкаў, які меў адносіны да комплексу гаспадарчых і жылых памяшканняў старадаўняга манастыра (скрыжаванне вул. Энгельса і вул. Савецкай). Напрыканцы 60-х, пачатку 70-х тут размяшчаўся кулінарны цэх і невялікая сталовая. Прыкладна на гэтым месцы стаіць зараз новая царква.*

На падставе гэтай гістарычнай даведкі можна меркаваць:

– Віленскай называлася адна з цэнтральных вуліц, якая геаграфічна пралягала ў накірунку аднаго з цэнтральных гарадоў княства – Вільні. Верагодней за ўсё гэта быў кавалак цяперашняй Ленінскай, які ідзе ад скрыжавання з Савецкай уніз да Друці: па-першае, супадае накірунак, па-другое назву «Ленінская» пазней маглі даць толькі адной з галоўных вуліц (на момант складання інвентару – 42 двары была вялікай лічбай, у параўнанні з іншымі вуліцамі, і, зразумела, на пачатку XX ст., падчас перайменавання яна была яшчэ большай). У спісе яна згадваецца першай.

– Манастырскай магла называцца другая палова вуліцы Ленінскай, якая ішла з магілёўскага накірунку менавіта да манастыра.

– Лагічна дапусціць, што вуліца, якая вяла ў кірунку Цяцерына, насіла аднайменную назву. На схеме, якая прыводзіцца ніжэй, бачна, што ад панскага фальварка да Ліпавага гаю ідзе дарога, падобная да алеі. Потым абмінае Ліпавы гай справа і працягваецца ў цяцерынскім накірунку. Чаму вуліца магла быць названая менавіта Цяцерынскай (не Круглянскай, не Талачынскай ці Друцкай, напрыклад)? Вядома, што ў свой час Цяцерын быў дастаткова буйным паселішчам (дарэчы, як і суседні Галоўчын). Калісьці, як адміністратыўныя цэнтры, яны былі важнейшыя за Бялынічы. У Цяцерыне размяшчаўся замак валадароў навакольных земляў. Але і калі Бялынічы ўжо мелі большую значнасць (асабліва пасля набыцця мястэчка Львом Сапегам), у свядомасці насельніцтва Цяцерын яшчэ доўгі час існаваў, як важны геаграфічны аб’ект.

– Калі вуліца Гайная і звязана з паняццем «гай», то гэта нейкі іншы парк, чым уласна «Ліпавы гай», які патрапіў у каталог помнікаў садова-паркавай культуры царскай Расіі і дажыў да сённяшніх дзён. Закладзены ён быў пазней за стварэнне рэестра Льва Сапегі – пасля 1696 года, калі ўладальнікам Бялыніч па закладным праве стаў Казімір Дамінік Агінскі. Не выключаецца, што на месцы, якое выкарысталі Агінскія для стварэння свайго «Ліпавага гаю», і раней існавала паркавая абсада. Магчыма, вуліца Гайная – кавалак шляху ад фальварка да Ліпавага гаю (гл. ніжэй схему).

– Вуліца Глініцкая (месцазнаходжанне якой удакладняецца як «за царквой») указвае на геаграфічную прывязанасць да «Глінішча» – сённяшняя вуліца Сялянская (Крестьянская). Акрамя таго, роў, што пралягае паміж месцам, дзе стаяў манастыр, і былой вуліцай Глініцкай, геаграфічна падзяляе тэрыторыю на два розныя раёны (умоўны цэнтр і гістарычную Слабаду – не блытаць з Задруцкай Слабадой).



*У памяшканні былога манастыра пасля вайны месцілася школа №1 (беларуская – усе прадметы выкладаліся на роднай мове). Класы размяшчаліся ў былым манастырскім двары (гэта значыць правей ад цэнтральнага будынку, які бачны на фота). Здымак зроблены на пачатку – у сярэдзіне 1950-х з месца, дзе цяпер знаходзіцца гасцініца.*



*Прыкладна праз дзесяцігоддзе. У будынку размяшчаюцца кінатэатр (займае вузкае памяшканне з левага боку) і клуб (вялікая актавая зала са сцэнай). Незадоўга да пажару, які папсаваў складскія памяшканні ўнівермага (месціліся тут жа), а таксама месточковы архіў (ці яго частку). Агнём былі закранутыя класы школы №1. Пасля гэтага, у 1963 годзе, улады зрабілі першую спробу ўзарваць будынак.*

## Гістарычная даведка №2

*Змешчаная ніжэй рэпрадукцыя паказвае межы мястэчка на пачатку XIX стагоддзя. Крыніца інфармацыі – «РГВИА» («Российский государственный военно-исторический архив»).*

*Пра тое, што тут зафіксаваны аб'екты пачатку XIX стагоддзя (магчыма канца XVIII), сведчыць:*

*1) згадванне пра касцёл кармелітаў (пазней, у перыяд расейскай царскай улады, перахрышчаны ў праваслаўную царкву);*

*2) згадванне маёнтка, які належаў менавіта Агінскім (уладальнікам мястэчка да канца XVIII ст.), а не новым гаспадарам, якія з'явіліся на нашых землях пасля апошняга падзелу Рэчы Паспалітай.*




197 Ситуационный план размещения монастыря кармелитов и резиденции кн. Огинских в Белыничах, прорись с карты XIX в. (РГВИА)

*1. Панскі маёнтак. За ім, на захад, тэрыторыя саду.*

*1а. Шлях, які вядзе ад панскага маёнтка да цэнтральнага ўезда на тэрыторыю ліпавага гаю, потым агінае справа парк і працягваецца на поўнач у кірунку Цяцерына.*

*2. Ліпавы гай. На схеме зафіксавана дастаткова вялікая тэрыторыя. Што падкрэслівае факт колішняга існавання тут архітэктурных, прыродных, гістарычных аб'ектаў. Старажылы за савецкім часам распавядалі мясцовыя легенды, што нібыта калісьці існаваў падземны ход ад манастыра да Ліпавага гаю. Гэта ўмоўна пацвярджалася рэшткамі будаўнічых матэрыялаў, што ў розныя часы знаходзіліся на тэрыторыі парку.*

*З іншага боку – прама з будынку былога манастыра існаваў уваход у сутарэнні, які напрыканцы 1970-х – у пачатку 1980-х быў завалены смеццем.*

*Яўген Камароў, які жыве на вуліцы Савецкай, непадалёк ад ліпавага гаю, распавядаў пра вялікую «варонку», якая ўтварылася на суседскім агародзе. Па яго словах, не падобна было, што прычынай утварэння сталі знешнія фактары, а наадварот – выглядала так, нібыта прасела ў пустату верхняя частка грунту. Месца знаходзілася якраз па дарозе з манастыра да ліпавага гаю.*

*Рэальна на сённяшні дзень у ліпавым гаі захаваліся два аб'екты. Першы – узвышша ці пагорак, на якім цяпер месцяцца танцавальная пляцоўка і канцэртная сцэна.*

*На схеме прыкладна на месцы цяперашняга пагорка пазначаны белы квадрат, які мы, з лёгкай рукі мясцовых жыхароў, умоўна назавем «Курганам».*

*Насупраць «Кургана» – так званая «Сажалка». Гэта другі аб'ект, які мы вылучаем: невялікі вадаём, дзе не перасыхае вада і дзе заўсёды вялася рыба (чым у розныя часы карысталіся мясцовыя рыбакі). На схеме пазначаны шлях праз усю тэрыторыю Ліпавага гаю. Гэта дарога (па сучасным меркам дастаткова вузкая), і цяпер яна аддзяляе першы аб'ект («Курган») ад другога («Сажалка»). Лічыцца, што «Курган» – гэта не што іншае, як акуратна ўкладзены грунт, які пераносілі пры капанні «Сажалкі» напрыканцы XVII ст.*

*Ліпы, якія дажылі да 1980-х гадоў, ад старасці пачалі падаць, чым прычынялі сур'ёзную шкоду. На дадзены момант большасць тэрыторыі Ліпавага гаю засаджана адносна маладымі дрэвамі.*

*Невядома, ці займаўся хто за савецкім часам сапраўднымі навуковымі даследаваннямі. Вынік, безумоўна, мог быць вельмі цікавым.*

*3. Размяшчэнне касцёла кармелітаў.*

*4. Рынкавая плошча, на поўдні ад якой стаяў касцёл (3), а с заходняга боку размяшчалася праваслаўная царква (3а). У дакуменце 1627 года (інвентар Льва Сапегі) пералічваецца восем вуліц, якія адыходзяць ад рынка (мяркуецца, што па вышэй прыведзенай схеме, гэта нумары 5, 6, 7, 8, 9, 10, 12, і шлях, тлуста пазначаны, які вядзе ад фальварку да ліпавага гаю (1а).*

*Складанне інвентару і фіксаванне плана на мапе аддзяляе прыкладна паўтара стагоддзя. За гэты час размяшчэнне вуліц прынцыпова не змянілася і можна акрэсліць дакладныя межы мястэчка ў пазначаны перыяд.*

*5. Сучасная Садовая вуліца, якая ў заходнім накірунку заходзіла крыху далей за скрыжаванне з сучаснай вуліцай Кірава.*

*6. Другая частка цяперашняй Садовай, якая ішла на ўсход прыкладна да скрыжавання з цяперашняй вуліцай 50-годдзя Кастрычніка (50 лет Октября).*

*7. Вуліца, якая ішла злева ад царквы на ўсход (на сённяшні дзень захаваўся яе кавалак у выглядзе завулка Піянерскі).*

*8. Сёння вуліца Пушкіна (да 1960-х – былая Міліцэйская). Ішла на захад прыкладна да скрыжавання з вуліцай 50-годдзя Кастрычніка (50 лет Октября).*

*9. Вуліца Віленская.*

*10. Магчыма, вуліца Манастырская. Таксама гэта шлях з Магілёва (праз Галоўчын, Кудзін), які перасякаў Бялынічы і далей ішоў у Віленскім накірунку.*

*11. Цяперашняя вуліца Энгельса.*

*12. Кавалак сучаснай Савецкай – ад рынкавай плошчы (скрыжаванне Савецкай і Ленінскай), на поўдзень.*

*13. Сьвінтар.*

*14. Былая вуліца Глініцкая (цяпер Сялянская – рус.: Крестьянская).*

*15. Цяперашняя вуліца Кірава, як сёння, так і раней была самай доўгай.*

*16. Цяперашняя вуліца Чырвонаармейская (рус.: Красноармейская).*

*17. Праглядаецца дакладны надпіс «Друць», які фіксуе на расейскай мапе менавіта беларускі варыянт напісання назвы ракі. Дарэчы, пасля першага падзелу нашай дзяржавы па Друці праходзіла мяжа паміж Рэччу Паспалітай і Расейскай імперыяй. Такім чынам, Бялынічы з 1772 года ўжо ўваходзілі ў склад Расіі, а Задруцкая Слабада да 1793 года знаходзілася яшчэ ў складзе Рэчы Паспалітай.*

*P.S. Пасярэдзіне шляху 1а назіраецца адгалінаванне ўлева (на захад). Гэта накірунак да габрэйскіх могілак. Магчыма, тут і пралягала тая самая «новая вуліца ў шэсць двароў, якая вяла да кладовішчаў жыдоўскіх». Мяркуецца, што гэта можа быць сённяшняя вуліца Кітаева.*

Дзякуючы гэтым дакументам, мы маем унікальную магчымасць даведацца, якія цікавыя назвы насілі нашы вуліцы ў XVII стагоддзі і як яны размяшчаліся. Застаецца толькі спадзявацца, што гэтае невялікае даследаванне будзе мець працяг, калі нашы землякі ці патэнцыйныя даследчыкі Бялынiччыны адгукнуцца і далучаць новыя матэрыялы, якія будуць калі-небудзь апісаны ў новых працах.

# НА ДАХУ СВЕТУ

Я ўсяго толькі запісаў мясцовае вымаўленне гэтай назвы – менавіта так, праз мяккае «с» – «Сьвінтар». Няхай выбачаюць мне мовазнаўцы, таксама я не буду спрачацца ні з гісторыкамі, ні з этнографамі. Так гаварылі мясцовыя людзі на маёй памяці. Ёсць меркаванне, што назва паходзіць ад польскага адпаведніка слову «могілкі» – *cmentarz* (якое, у сваю чаргу, мае адсылку да лацінскага *coemeterium*, а тое паходзіць ад старагрэцкіх *κοιμητήριον* – месца спачынку, ад *κοιμάν* 'усыпляць').

Але мае асабістыя ўражанні зусім іншыя. Назоўнік «свята» і прыметнік «святы» маюць адно і тое ж сэнсавае паходжанне. А яшчэ свет і святло. Сусвет і сусветны. Менавіта з гэтымі словамі звязаны ўражанні, калі трапляеш на самы верх пагорка. Так бывае – радаснае хваляванне напоўніць цела і душу, калі дакранешся да чагосьці, што сярод людзей асацыюецца з паняццямі вечнасці, памяці продкаў, генетычнай памяці і нечага яшчэ няўлоўнага, сакральнага, што не паддаецца ні асэнсаванню, ні апісанню.





Але ты дакладна ведаеш, што ўсё гэта звязана з папярэднімі пакаленнямі на тваёй роднай зямлі, з іхным ладам жыцця, з прагай да вольнага існавання, традыцыямі і верай.

Калі стаіш на самым краі верхняй часткі гэтага ўнікальнага месца, тварам на захад – прама пад нагамі пачынаецца рэзкі ўхіл. Ён дугой абыходзіць цябе злева і справа. І пачынаеш разумець, што гэта далёка не выпадкова, гэта не проста абрыў. Адсюль адкрываецца неверагодная па маштабах і прыгажосці панарама. Праглядаюцца на шмат кіламетраў усе накірункі. Прама перад вачыма – рака. Яна цячэ з поўначы на поўдзень і ўтварае натуральны абарончы роў.

Ззаду, на ўсходзе, застаецца вузкі пярэсмык, своеасаблівы «перашыек», за кошт якога сучасная вуліца Кірава ў гэтым месцы рэзка ўздымаецца ўверх (з боку вуліц Лорчанкі і Хігрына), стварае «горб» у некалькі дзясяткаў метраў і дастаткова рэзка падае ў бок Сялянскай. Адзінае месца, дзе мог быць «уваход» на гэтую тэрыторыю. Ускосна гэта пацвярджае каменны крыж, што стаіць «тварам» на ўсход, а «рукі» якога размешчаны дакладна на поўдзень і поўнач. Яго месцазнаходжанне – амаль што ў цэнтры кола, якое ўтварае верхні ўзровень Сьвінтара.





*На крыжы можна разабраць антрапаморфныя выявы.*




*Схема 1.*

Магчыма, у тым месцы, дзе сёння знаходзіцца «перашыек», першапачаткова быў мост праз роў. Тады атрымліваецца, што абароненае, напрыклад, драўлянымі сценамі, месца гэтае было цяжка дасягальным для непажаданых гасцей з любога боку. Роў з часам маглі засыпаць і пакінуць проста вузкую дарогу для ўезду на тэрыторыю гарадзішча, ці паселішча, якое выконвала абарончыя функцыі.

Карціна вымалёўваецца такая: калі тут з'явіліся першыя перасяленцы, яны выбралі месца, максімальна абароненае з усіх бакоў за кошт спецыфікі прыроднага ландшафту. Потым, магчыма, былі дасыпаныя схілы самога пагорка, пракапаны ці палепшаны роў вакол узвышэння. З цягам часу простыя людзі маглі рассяляцца па наваколлі ўзмоцненай тэрыторыі, а ў выпадку небяспекі збіраліся і ратаваліся за надзейнымі сценамі.

Колькі разоў тут адбываліся баявыя дзеянні, наколькі паспяхова трымалі абарону нашы продкі – не скажа зараз ніхто. Нідзе ў гэтым раёне не знаходзіцца рэштак абгарэлых бярвёнаў ці падобных на руіны канструкцый з каменя. Хоць натуральна, што з часоў з'яўлення тут першых пасяленцаў прайшло ўжо значна больш за тысячагоддзе, і шмат якія сведчанні зніклі незваротна.



*Рэпрадукцыя малюнка Віктара Сташчанюка.*

Але нездарма кажуць, хто шукае – той знаходзіць. Вось урывак з апавядання «Першы заробак» беларускага пісьменніка бялыніцкага паходжання Янкі Шарахоўскага:

*«Казалі, што ў даўнія часы тут стаяла драўляная царква, але за маёй памяццю ад яе засталося толькі некалькі камянёў з падмурка. Яна згарэла ў адзін з вялікіх пажараў. На змену ёй была пабудавана новая цагляная царква ў цэнтры мястэчка, а на цвінтары толькі паставілі невялікую капліцу. Паляна на месцы былой царквы была роўная, як ток. І не дзіва – яе дратавала кожную вясну не адно пакаленне такіх падшывальцаў, як мы…»*

Успаміны гэтыя адносяцца да паслярэвалюцыйных часоў (канец 10-х – пачатак 20-х гадоў XX стагоддзя). На дадзены момант – самае ранняе апісанне месца, якое мы ўзяліся даследаваць.

Ёсць яшчэ адзін факт, які нідзе не згадваецца: у сямідзясятыя гады мінулага стагоддзя будаўнікі ПМК-241, арганізацыі, што геаграфічна месціцца недалёка ад Сьвінтара, спрабавалі выкарыстоўваць гэтую вялікую гару дзеля здабычы пяску – іншымі словамі, як будаўнічы кар’ер. Кажуць, што экскаватаршчыкі выкопвалі вельмі шмат костак. Многія рабочыя адмаўляліся тут працаваць. Урэшце «кар’ер» пакінулі ў спакоі. Да сённяшняга дня засталіся своеасаблівыя «выемкі», якія парушаюць першапачатковыя контуры пагорка.

Таксама ёсць сведчанні мясцовых жыхароў, чые ўчасткі размешчаны побач са Сьвінтаром, што падчас сельскагаспадарчых работ з зямлі выкопваецца шмат чалавечых костак. Разабрацца, да якіх эпох адносяцца гэтыя рэшткі, дапамаглі б толькі сур’ёзныя археалагічныя даследаванні. Ці гэта загінулыя воіны падчас ваенных дзеянняў у мінулых стагоддзях, ці гэта пахаванне мірных жыхароў. Магчыма, пра гэта даведаюцца тыя, хто будзе даследаваць Сьвінтар у будучыні.



Што тычыцца наяўнасці царквы на Сьвінтары (і капліцы на яе месцы ў пазнейшыя часы) – гэта толькі пацвярджае той факт, што цэнтр жыццядзейнасці мястэчка калісьці быў звязаны наўпрост з гэтым месцам. Засталіся звесткі, што царква насіла імя святога Іллі, а гара, адпаведна, называлася Ільінскай. Вядома, што вобраз святога Іллі ў хрысціянстве мае аналаг з дахрысціянскім міфічным персанажам. Аналаг гэты – магутны Пярун, адзін з галоўных багоў па веры нашых продкаў. Так што не выключаецца, што ў свой час гара магла мець і іншую назву – напрыклад, Перунова гара.

Што тычыцца згадвання некаторых аб’ектаў, звязаных са Сьвінтаром пачатку мінулага стагоддзя (а таксама ладу жыцця бялынічан у той час), у Янкі Шарахоўскага захаваліся такія апісанні: «Крылатых гасцей мы з меншай сястрой Стаськай заўважалі адразу. Даволі было зірнуць з нашага двара цераз папоў агарод на празрыстыя верхавіны плакучых бяроз, дзе ўсю зіму чарнеліся маўклівыя грачыныя гнёзды. … Мы ўжо не маглі ўседзець у пракураных за зіму лучынаю хатах. З некалькіх суседніх двароў збіраліся вясёлай гурмой каля Нупрэевай прызбы, якая была на самым санцапёку і каля якой перш за ўсё раставаў вясной снег і падсыхала зямля…»





*«А калі на цвінтары прасыхаў парыжэлы дзёран, наша неўтаймаваная дзейнасць пераносілася туды. На цвінтары даўно ўжо не было магіл, яны зраўняліся з зямлёй. Цяжка было знайсці лепшае месца для нашых гульняў, чым вялікая паляна перад старой капліцай».*

*(Янка Шарахоўскі, апавяданне «Першы заробак».)*

Нізіна з паўночнага боку Сьвінтара нагадвае роў натуральнага паходжання. Яна праходзіць з усходу на захад, ад пачатку вуліцы Савецкай па тэрыторыі садоў і гародаў паміж вуліцамі Сялянская і Энгельса, у бок Чырвонаармейскай, на якой і размешчаны сёння Сьвінтар. На тэрыторыі трох участкаў мясцовых жыхароў на згаданай вуліцы захаваўся старажытны фундамент з вялізных камянёў. Ён знаходзіцца метраў за чатырыста ад Сьвінтара на поўнач, амаль што насупраць старога драўлянага моста праз Друць. Апошнія звесткі сведчаць, што напрыканцы XIX – у пачатку XX стагоддзя там была кузня. Але, мяркуючы па памерах гэтых каменных муроў, раней тут маглі быць іншыя значныя пабудовы.



*Старажытныя муры па вул. Чырвонаармейскай, непадалёк ад Сьвінтара.*



*Паўночна-ўсходняя частка Сьвінтара.*



*Пад'ём з боку вуліцы Лорчанкі.*



*Спуск у бок Сялянскай.*



*Від на Задруцкую Слабаду.*

Калі стаяць на самім аб’екце нашага апісання – на вяршыні Сьвінтара – тварам на ўсход, то роў знаходзіцца па левую руку. Гэта прыроднае ўтварэнне згадваецца невыпадкова, бо захавалася інфармацыя, з якой вынікае, што калі пры пашырэнні тэрыторый мястэчка цэнтр яго змясціўся ў бок сучасных цэнтральных забудоваў, то тэрыторыя Сьвінтара засталася на «Слабадзе». А што такое «слабада»? Гэта месца пражывання людзей, якія выбралі лад жыцця, як мага меней залежны ад мясцовай улады. Вольныя людзі, якія не плацілі большасці падаткаў. Яны не займаліся сельскагаспадарчай працай, а часцей за ўсё ramёствамі... 

Варта згадаць яшчэ два месцы, якія можна назваць крыніцамі здабычы прыродных рэсурсаў, што былі выгодна размешчаныя вакол старажытнага паселішча. Першае – так званыя «Пяскі», дастаткова вялікая плошча ўздоўж берага Друці (у раёне цяперашняга моста па былой трасе Магілёў – Мінск), дзе на паверхні знаходзіцца шмат рачнога пяску. Як вя-

дома, менавіта ён лічыцца ідэальным будаўнічым матэрыялам, мае высокую ступень ачысткі і вылучаецца адсутнасцю непажаданых складнікаў – каменьчыкаў, дамешкаў гліны. Ёсць меркаванне, што менавіта гэты пясок актыўна выкарыстоўваўся пры ўзвядзенні старажытных будынкаў у мястэчку.



*«Пяскі» у красавіку 1960 года.*



*Праз 55 гадоў.*

Другое месца – «Глінішча». Такая старажытная назва захавалася за вадаёмам, які не перасыхае круглы год і мае сетку падземных плыняў. Ён знаходзіцца недалёка ад Сьвінтара ва ўсходнім накірунку. Мяркуецца, што тут у вялікіх аб’ёмах здабывалася гліна для рамесніцтва і будаўніцтва.



*«Глінішча» ў 1960-я (былы завулак Калініна, цяпер вуліца Якубоўскага).*



*Праз паўстагоддзя – дакладна той самы ракурс. На пачатку 1990-х гг. на гэтым месцы планавалася будоўля жылога шматпавярховага дома. «Глінішча» паспрабавалі засыпаць грунтам, але вада ўсё адно выходзіла на паверхню. Што рабіла далейшае будаўніцтва немагчымым. Вадаём значна паменшыўся ў памерах, аднак гістарычнае месца «Глінішча» захавалася.*



*«Не было б шчасця, ды няшчасце дапамагло» – ацалелае «Глінішча» у 2000-х, прыкладна 30–35% былога вадаёма.*

Дарэчы, ёсць каля Сьвінтара і крыніца, дзе з-пад зямлі б'е чыстая крынічная вада і ўтварае ручаёк, што сцякае ў Друць. Усё прадугледзелі жыхары, якія калісьці пасяліліся ў гарадзішчы на высокім узгорку каля ракі.

Такія звесткі захаваліся і вось такі атрымаўся аповед пра гару са старажытнай назвай Сьвінтар. Цяпер на ёй усталяваны сімвалічны камень з надпісам «Тут пачыналіся Бялынічы». Тэрыторыя дагледжана, знізу ўверх вядзе драўляная лесвіца. У свой час вядомы краязнаўца Міхась Карпечанка быў ініцыятарам добраўпарадкавання гэтага месца.

**З дадатковых дадзеных**

*– вядома, што мяккае вымаўленне слова «сьвінтар» мае месца і на суседняй Барысаўшчыне, з якой мяжуе Бялыніччына на паўночным захадзе (напрыклад, у вёсцы Барань). Дарэчы, Друць з'яўляецца своеасаблівай мя-*

*жой гістарычна-этнічнага падзелу, і ў той самы час этнічным скрыжаваннем. Лічыцца, што тут калісьці пралягаў падзел крывіцкіх і дрыгавіцкіх уладанняў;*

*– захаваліся звесткі, што падчас Другой сусветнай вайны Сьвінтар выкарыстоўваўся па прамому свайму прызначэнню, як і шмат стагоддзяў таму – у якасці абарончага аб'екта. Чырвонаармейцы абстрэльвалі заходні накірунак – шлях, па якому немцы набліжаліся да мястэчка праз Задруцкую Слабаду. Потым буйнакаліберная гармата была пакінута разам з боекамплектам. Калі яна патрапіла да немцаў, тыя праз Друць абстрэльвалі партызанаў у наваколлі вёскі Сцёхава. Пасля вайны гармата ў цэласці яшчэ некалькі гадоў знаходзілася на Сьвінтары, што прывяло да няшчаснага выпадку – па адводзе масіўнага затвора, нага аднаго з падлеткаў, што гулялі каля гарматы, патрапіла ўнутр механізма, і хлопчык застаўся інвалідам на ўсё жыццё;*

*– сёння на гары ўсталяваны асобны помнік удзельнікам баявых дзеянняў Другой сусветнай вайны.*



*Гармата на Сьвінтары (з архіва Алены Старавойтавай).*

*P.S. Калі падымаўся ў каторы раз на самы верх гэтага пагорка, у галаве навязліва круцілася мелодыя песні польскага гурту «Czerwone Gitary» з альбома 1979 года «Port Piratów» з такімі словамі:*

| | |
|---|---|
| Na dach, na dach świata. | На дах, на дах свету |
| Siódma dal, ósma dal | Сёмая даль, восьмая даль |
| Już milczy echo, umiera wiatr... | Ужо маўчыць рэха, памірае вецер… |
| Na dach, na dach świata – | На дах, на дах свету |
| Sam jak sen, sam jak sen | Сам, як сон, сам як сон |
| Przełęcze białe – utul się w nie... | Белы перавал – захутайся ў яго… |



Мастак *Сташчанюк Віктар Пятровіч* (рэканструкцыя гарадзішча).
Фотаздымкі: *аўтара, Яўгеніі Алефірэнка, Дзмітрыя Ляпейкі, з архіваў Яўгена Камарова, Алены Старавойтавай.*



*Від са Сьвінтара. Пачатак 60-х.*



*На тым самым месцы праз пяцьдзясят гадоў (арыенцір—воданапорная вежа).*




*1990-я гады. Справа ўзвышаецца Бялыніцкі дуб.*



*Той самы ракурс амаль на 30 гадоў раней. Дзень грамадзянскай абароны. На месцы цяперашняга ўніверсама «Родны кут» – драўляная харчовая крама. Справа, на заднім плане – дуб у росквіце сілы.*

# ТРЫМАЦЦА КАРАНЁЎ

Навокал кіпела жыццё
Ці плаўнай плыло ручаінай,
Застаўся ён сведкам адзіным
Таго, што пайшло ў небыццё…

*А. Войлакава, урывак з верша*
*«Стаяў у Бялынічах дуб» (2005)*

## 1. Сімвал моцы і непахіснасці

Колькі жылі на зямлі беларускай людзі, стаўленне да дрэва як да жывой істоты, а часам нават як да магічнага культавага аб’екта было самае высокае і ўзнёслае. Кожнае дрэва выконвала сваю сакральную функцыю, але асобнае месца ў іерархіі дрэваў займаў усё ж такі дуб.

З самых старажытных часоў продкі сучасных беларусаў заўважылі галоўныя моманты існавання магутнага дрэва ў прыродзе: непахіснасць, моц, доўгія гады жыцця, надзейна захаваная ўласная тэрыторыя. Лічылася, што дуб можа дапамагчы сваёй энергіяй – даць сілу перад бітвай, падказаць правільны шлях, дапамагчы схавацца ад бяды.

Паважлівае стаўленне да легендарнага дрэва засталося і да сённяшняга часу. У шмат якіх рэгіёнах дубы ахоўваюцца і з’яўляюцца гонарам сваёй зямлі. Напрыклад, два самыя старыя дубы Беларусі растуць у Маларыцкім раёне. Першаму больш за 800 гадоў. Ён мае 37 метраў у вышыню, і яго называюць Цар-Дуб. Лічыцца, што ён здольны зараджаць чалавека станоўчай энергіяй і бадзёрасцю. Каля магутнага дрэва ў мінулыя часы нават вяселлі гулялі. Другому дубу каля сямісот гадоў. І да гэтага волата мясцовыя людзі ставяцца з вялікай павагай.

У Докшыцкім раёне на Віцебшчыне ёсць пяцісотгадовы дуб. Тут існуе павер’е, што варта толькі дакрануцца да дрэва – і хваробы знікаюць, людзі папраўляюцца. Але славіцца магутнае дрэва яшчэ і тым, што пад яго шатамі адпачываў сам Тадэвуш Касцюшка.

Ёсць, безумоўна, і ў іншых месцах легендарныя старажылы. Напрыклад, Уладзімір Караткевіч у апавяданні «Дрэвы вечнасці» апісаў дуб-волат ля вёскі Данілевічы Лельчыцкага раёна, які і сёння расце там у гармоніі з прыродай.

Па звестках Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, у нашай краіне зарэгістравана сорак тры дрэвы, якія абвешчаны батанічнымі помнікамі прыроды рэспубліканскага значэння.

**Даведка этнографа**

*«У беларусаў культ дрэў шырока распаўсюджаны. Многім дрэвам пакланяюцца яшчэ і сёння. Згодна з павер'ямі, некаторыя з іх валодаюць лекавай сілай. Святым дрэвам раней прыносілі хлеб і соль, загорнутыя ў чыстую хусцінку. На галінкі вешалі ручнікі. Святымі лічыліся некаторыя борцевыя дрэвы. Распаўсюджаныя былі павер'і, што калі дрэва рубяць, то з яго ідзе кроў, чуваць стогны, а калі дрэва зарыпіць, то гэта прыкмета таго, што ў ім пасялілася чалавечая душа, і той, хто рубіць дрэва, вымушае душу шукаць іншы прытулак [Чарновская, 1818, с. 116–117; Богданович, 1895; Никольский, 1929; Зеленин, 1933, с. 591–629].*

*Найбольшай пашанай ва ўсе часы ў беларусаў карыстаўся дуб. Многія паклонныя дубы знаходзяцца каля крыніц, культавых камянёў. Захаваліся назвы культавых дубоў – Волат, Асілак, Святы Дуб, Добры Дуб, Трохгранны Дуб, Перуноў Дуб, Стары Дуб, Саўкін Дуб і інш.*

*На такія назвы наслаіліся больш познія, звязаныя з гістарычнымі асобамі, – Вітаўтаў Дуб, Напалеонаўскі Дуб, Дуб Адама Міцкевіча.*

*Так, Вітаўтаў Дуб згадваецца ў дакуменце за 1627 год непадалёк ад в. Прудзіны, што сёння на тэрыторыі Бешанковіцкага раёна [Историко-юридические..., вып. 22, с. 459].*

*У Бешанковічах яшчэ і зараз людзі паказваюць дуб, пад якім нібыта сядзеў Напалеон [Зайкоўскі, 1995, с. 199]. Падобныя паданні існуюць і пра адзін з дубоў пры дарозе з Глыбокага ў Шаркаўшчыну.*

*Пра культ дуба яскрава сведчаць знаходкі 1869 года на тэрыторыі былога Барысаўскага ўезда. У лесе, у дупле вельмі старога дуба, сяляне знайшлі два язычніцкіх ідалы. Адзін ідал быў з серабра, а другі з бронзы [Тышкевич, 1865, с. 136–137].*

*Дуб пад назвай Волат рос на капішчы ў Мінску, якое праіснавала на беразе Свіслачы да пачатку XX стагоддзя. На галінкі дрэва вешалі ручнікі, а жалуды з дуба лічыліся святымі [Ляўкоў, 1992, с. 43–53].*

*Хутчэй за ўсё, ад язычніцкага капішча застаўся і Святы Дуб у горадзе Паставы, на беразе ракі Мядзелкі. Яшчэ ў нядаўнія часы дубу насілі манеты.*

*Каля горада Ашмяны (на ўзмежжы з Літвой) у лесе яшчэ ў пачатку XX стагоддзя пакланяліся дубу пад назвай Дэвайціс, што ў перакладзе з літоўскай мовы азначае «Божышча» [Рыков, 1914, с. 15].*

*Да нядаўняга часу паклонным быў і дуб каля в. Царкавішча Ушацкага раёна. З-пад дуба выцякала крыніца, якая таксама лічылася святой. Вадой з крыніцы лячылі вочы, а ў дупло дуба клалі плату за лячэнне. У 1923 годзе чырвонаармейцы спалілі дуб, але людзі па-ранейшаму хадзілі на гэтае месца і складалі ахвяры на абгарэлы пень [Опросные листы, справа №71, с. 194].*

*Паблізу вёскі Адэлькавічы на Слонімшчыне вядомы вялізны дуб каля кurганоў. У канцы XIX стагоддзя былі два дубы, а яшчэ раней іх было чатыры. Дубы лічыліся зачараванымі і, па павер'ях, калі зрубіць такі дуб ці нават узяць з яго галінкі, адарваныя ветрам, то абавязкова здарыцца якоенебудзь няшчасце – здохне конь, карова ці авечка. Расказвалі, што аднойчы арандатар графа Завішы спілаваў два дубы і ад гэтага ў яго здохла ўся жывёла. Два дубы, якія засталіся, людзі акраплялі святой вадой, і іх ніхто не чапаў [Довнар-Запольский, 1893, с. 422].*

*Яшчэ ў 20-я гады XX стагоддзя каля в. Дусаўшчына Капыльскага раёна гаварылі пра Змееў Дуб. Паводле падання, калісьці з Захаду на Усход ляцеў змей і сеў на дрэва. Дуб разам са змеем спалілі, і на гэтым месцы ўтварыўся курган [Опросные листы, справа №73, с. 266].*

*Па звестках краязнаўцаў, на беразе ракі Беразіны (Дняпроўскай) каля в. Жукавец ёсць Святы Дуб. Сёння ад яго застаўся толькі пень. На пень паляўнічыя носяць ахвяры. Калі забіваюць лася ці аленя, то нясуць сэрца жывёлы, а калі птушку – то некалькі пёраў.*

*У в. Міколкі Уздзенскага раёна, па паданнях, пад дубам ляжыць залаты скарб, які закапалі французы. Месца пад дубам лічыцца ахвярным. Тут ставілі драўляныя крыжы [Кісялёў, 1994, с. 133–134]».*



Фрагмент артыкула «*Культавыя дрэвы ў Беларусі*».
Аўтар: *Людміла Дучыц. Гл. спіс літаратуры напрыканцы артыкула.*
Крыніца: *S T U D I A MYTHOLOGICASLAVICA III – 2 0 0 0*



*Абрад на суседняй Бярэзіншчыне «Цягнуць Каляду на дуба» (2010-я).*





*На здымку пачатку 1950-х добра бачны дуб, за якім адразу растуць высокія старыя яліны, што засталіся ад абсадаў вакол колішняга панскага саду.*

## 2. Бялыніцкі дуб і яго лёс

На некаторых фотаздымках цяперашняй вуліцы Савецкай у мястэчку Бялынічы, якія па часе адносяцца да пачатку–сярэдзіны XX стагоддзя, дакладна бачна высокае дрэва непадалёк ад месца цяперашняга скрыжавання з Садовай. Гэта знакаміты бялыніцкі дуб. Нават на самых ранніх здымках ён выглядае магутнейшым за іншыя дрэвы.

Шмат чаго перажыў дуб-волат за стагоддзі свайго жыцця. Быў ён сведкам шанавання «развітога сацыялізму», калі калоны дэманстрантаў крочылі міма яго з папяровымі кветкамі. І ў той жа час «чырвонага тэрору» – выканаўцы з мясцовых структураў месціліся амаль насупраць. Перажыў фашысцкую акупацыю і грамадзянскую вайну. Выстаяў у часы Першай сусветнай. Быў сведкам антыцарскіх паўстанняў і Напалеонаўскай кампаніі. І тое, што ён стаяў на сваім месцы ў часы Рэчы Паспалітай, уяўляецца цалкам магчымым – з тых часоў прайшло ўсяго толькі два з паловай стагоддзі. Для дуба такі ўзрост – росквіт сілы.

А загінуў ён недарэчна, у час, які, здавалася б, не павінен быў утрымліваць ніякай ваеннай ці тэрарыстычнай небяспекі – у 2000-я гады, падчас існавання суверэннай Рэспублікі Беларусь.

Спілавалі яго а пятай гадзіне раніцы 1 траўня 2005 года. Навошта – дакладна патлумачыць сёння ніхто не можа. Дрэва абсалютна не замінала ні

мінакам, ні паркоўцы аўтамабіляў, ні пад’езду да будынкаў, ні дзейнасці супрацоўнікаў бліжэйшых установаў, не засланяла нічыіх вокнаў, не захінала сонечнага святла, не закрывала далягляду. Яно неверагодным чынам не чапляла нікога. Нягледзячы на ўзрост, гэта было моцнае і прыгожае дрэва.



*У цэнтры здымка, датаванага 1925 годам, на пярэднім плане вялікае дрэва, знаёмае не аднаму пакаленню бялынічан. Дакладная дата здымка – 1 траўня. Дуб пражыве яшчэ роўна, дзень у дзень, 80 гадоў.*
*Цікава, што на гэтым самым здымку можна пабачыць тэрыторыю былога панскага саду. Ролю загарадзі тут выконваюць шчыльна пасаджаныя яліны. Добра бачны квадрат участка, з усіх бакоў абнесены яловымі пасадкамі.*



*Дрэва яшчэ на сваім месцы.*

Хто адкажа на пытанне – дзе вывучаецца навука знішчаць рэдкія помнікі прыроды? Чаму ўнікальнае дрэва ў цэнтры мястэчка працей спілаваць, замест каб абнесці загараддзю, паставіць шыльду, даглядаць і клапаціцца, захоўваць і шанаваць, як сапраўдную каштоўнасць?

Хто скажа, ці ёсць людзі, гатовыя прызнаць свае памылкі? Калі так – то ёсць сустрэчная прапанова: пасадзіць на тым самым месцы маладу дуб. Зрабіць урачыстую акцыю, сабраць школьнікаў, жыхароў мястэчка.

Час ляціць незаўважна, і дзесяцігоддзі мінаюць з такою хуткасцю, што мы за імі не паспяваем. У 2015 годзе спаўняецца ўжо дзесяць год. Дзесяць год чаму? Акту вандалізму? Акцыі па абразе памяці продкаў? Вельмі не хацелася б увогуле ўздымаць такія тэмы. Таго, што знішчана, ужо не вернеш. Але штосьці зрабіць усё ж магчыма. Заўсёды на нашай зямлі традыцыя пасадзіць дрэва лічылася найвялікшым гонарам.



*Моцны і прыгожы дуб па-каралеўску ўзвышаўся над мястэчкам (самае высокае дрэва на заднім плане) .*



*Бялыніцкі дуб, выкінуты на сметнік.*



*Месца, дзе стаяў дуб, праз дзесяць гадоў.*
*«Упрыгожана» мясцовымі «дызайнерамі».*

**Лінгвістычная даведка**

*«Індаеўрапейскія моўныя факты дапамагаюць раскрыць усю паўнату архаічнага сэнсу паняцця, якое паходзіць ад і.-е. кораня dreu- drū «быць цвёрдым, моцным, здаровым» як апісання ўласцівасцяў дрэва (dreu-wo). Параўнанне:*

- *у стараірландскай (адносіцца да кельцкіх моваў): daur, dair – дуб.*
- *у кімрскай (валійская ці ўэльская мова, адносіцца да кельцкіх): derw, derwen – дуб.*
- *у брэтонскай (адносіцца да кельцкіх моваў, распаўсюджана на паўночным захадзе Францыі, у правінцыі Брэтань): derv, deruenn – дуб.*
- *у ірландскай: dar – дуб, drūi – святар, друід.*
- *у гальскай (адна са старажытных кельцкіх моваў): dervo – дуб, druides – святары, друіды.*
- *у албанскай: dru – дрэва.*
- *у старажытнаславянскай: дръва – дрэва.*
- *у старажытнагрэцкай: drūs – дуб.*
- *у старажытнаіндыйскай: dhruvá – моцны, надзейны.*
- *у авестыйскай (адна з самых старажытных вядомых на планеце моваў, захавалася толькі як мова богаслужэння ў сучасным зараастрызме – у парсаў Індыі і гебраў у Іране): drva – здаровы.*
- *у старажытнапярсідскай: duruva – здаровы.*
- *у літоўскай: drūtas – моцны, цвёрды.*
- *у беларускай: трывалы – здаровы, моцны.*

*Вельмі паказальныя факты з германскіх моваў:*

*З аднаго боку – triu (гоцкая, старажытная мова готаў, адносіцца да ўсходняй групы германскіх моваў, у сваім паходжанні блізкая да прамовы славян), trēow (англа-саксонская – ранняя форма ангельскай мовы), tree (сучасная ангельская) – дрэва.*

*З другога боку – з гоцкай triggs перакладаецца як «верны»;*

*з англа-саксонскай trēow – вера, вернасць, праўда;*

*з ангельскай true – праўдзівы;*

*з нямецкай treue – вернасць, адданасць;*

*з паўночных старажытных скандынаўскіх trū – вера, рэлігія;*

*з ніжняй і сярэдняй нямецкай trūwe і таксама з верхняй нямецкай trūwa – рэлігійная вера.*

*З усяго гэтага можна вывесці, што словы са значэннем «вера» ўзыходзяць у сваёй этымалогіі да словаў са значэннем «дрэва». Пры гэтым цвёрдае,*

*трывалае дрэва (найчасцей дуб) у нашых продкаў разумелася як вобраз сусвету (axis mundi), як крыніца найбагацейшай міфічна-паэтычнай сімволікі. Такім чынам, маем характэрны сэнсавы ланцуг: «назоў аб'екту ўшанавання» – «ушанаванне (рэлігійнае)» – «вера».*

*Пруская мова (адна з вымерлых балтыйскіх моваў, заходнебалтыйская група), якую яшчэ называюць старажытнапрускай, каб адрозніваць ад прускіх гаворак нямецкай мовы, захавала тэрмін druvingin – «вернік» (у беларускай транслітарацыі магчымае як «друвінг»), які можна параўнаць са славянскім dreven (ст.-слав. дрвьнь, дрьвльнь, рус. древний), які паходзіць ад назову дрэва. Адсюль можна разглядаць верніка-друвінга і як таго, хто вызнае даўнюю (дрэўнюю, драўляную) веру, шануе «обычяи древльнии».*

Артыкул «*Editorium*» (*фрагмент*).
Аўтар не пазначаны.
Крыніца: *альманах «Druvis» №1 (Мінск, 2004), ст. 4.*

*«Druvis (прус.) – слова не выпадковае і не чужое нашай традыцыі. Яно вяртае нас не толькі да старавечнага светаўспрымання, у якім дрэва (дуб) – вельмі важны сімвал веры, даўніны, моцы і здароўя; яно задае цэлы шэраг прасторава-часавых параметраў нашай культуры».*

**Тапанімічная даведка**

*Вялікая папулярнасць і аграмаднае значэнне дуба ў жыцці, светапоглядзе і разуменні сусвету беларусамі адлюстравалася ў такім феномене, як шматлікія назвы населеных пунктаў па ўсёй тэрыторыі краіны.*

*Далёка не поўны, выбарачны спіс назваў вёсак і мястэчкаў, звязаных коранем «дуб», які прыводзіцца ніжэй, адносіцца практычна толькі да Мінскай і Магілёўскай абласцей:*

*Дубы, Дубовы Лог, Дубаўка, Дубок, Дубовае, Дубцы, Дубна, Старадубава, Дубнікі, Паддуб'е, Дубкі, Дубейкі, Дуброўка, Малая Дуброўка, Дубішча, Дубінкі, Дубілаўка, Дубовікі, Дуброўскія Хутары, Дубеі, Дуброва, Дубовы Лес, Крывадубаўка, Дубавое, Дубенцы, Дубаносы, Дубіца, Чырвоная Дубрава, Дубіна Баярская, Дубеец, Добры Дуб, Дубава.*

*І ў саміх вышэй згаданых абласцях, і ў іншых абласцях Беларусі існуе вялікая колькасць населеных пунктаў з назвамі, якія дакладна супадаюць са згаданымі ў спісе. Часта назвы ўпамінаюцца тры-чатыры разы ў розных рэгіёнах. А што тычыцца назвы Дуброўка, то яна трапляецца ў розных абласцях некалькі дзясяткаў разоў.*

*Дадаткова:*

*Брэсцкая вобл.: Дубрава, Задуб’е, Дубнякі, Дубовая, Дубовае, Дуброўкі, Дубраўцы, Дубіны, Старадубцы, Дубічна, Мокрая Дуброва, Дубнавічы, Паддубна, Дубянец, Бор-Дубянец.*

*Гомельская вобл.: Зялёны Дуб, Зялёная Дубрава, Дубецкае, Дубовіца, Дубніцкае, Новая Дуброва, Старая Дуброва, Красная Дуброва.*

*Гарадзенская вобл.: Дубатоўка, Дэмбрава (Шчучынскі р-н, ад польскага «дэмб» (dąb) – дуб)*

*Віцебская вобл.: Дуброўна, Савін Дуб, Дуброўкі.*



*Дуб у Браслаўскім раёне (Опса), 22 метры, каля 300 гадоў.*



*Цар-Дуб каля вёскі Дубічна Малaрыцкага р-на. Узрост больш за 800 гадоў.*



*У дубраве каля вёскі Данілевічы Лельчыцкага раёна, пасярод маладых дубоў, расце дуб-волат вышынёй 32 метры. Мясцовыя жыхары сцвярджаюць, што ўзрост яго каля 600 гадоў. Але навукоўцы вызначаюць тэрмін у 350–400 гадоў.*



*Цар-дуб у Лепельскім раёне, прыкладны ўзрост 250–500 гадоў.
Вышыня – 26 метраў, дыяметр – 1,56 метра.*



*Адзін з самых старажытных дубоў у Польшчы – дуб Бартэк каля горада Кельцэ. Вышыня 30 метраў, узрост 1100 гадоў. Дрэва-волат з'яўляецца героем шматлікіх легендаў і паданняў. Адно з іх згадвае магутнага караля Казіміра Вялікага.*



*Стэльмужскі дуб. Знаходзіцца ў Літве, на мяжы з Латвіяй, у мястэчку Стэльмужэ Зарасайскага раёна. Ахоп ствала 13,5 метра, узрост каля 1500 гадоў. Каб прадухіліць разбурэнне, у дрэва ўстаўленыя дзве адмысловыя пломбы. Спецыяльную праграму па захаванню дрэва распрацаваў і займаецца ёю шмат гадоў чэшскі навуковец Марцін Немец.*



*Дуб Таме-Лауры (Эстонія, воласць Урвастэ), узрост каля 700 гадоў. Самы вялікі дуб краіны.*
*Назва паходзіць ад імя бога ветру Лаўрытса, які вызначаўся сваім няпростым характарам – мог нарабіць шкоды, але рабіў і добрыя справы.*
*Дуб Таме-Лаўры ў свой час упрыгожваў дзесяцікронавую эстонскую купюру.*
*На аўтамагістралі Урвастэ–Канэпі месца размяшчэння дуба пазначана дарожнымі ўказальнікамі.*

*Дуб Фэмайхе.*
*Расце ў акрузе Боркен,*
*Паўночны Рэйн - Вестфалія.*
*Адзін з найстарэйшых дубоў*
*у Нямеччыне, чый узрост.*
*ацэньваецца ад 600*
*да 1500 гадоў.*
*Мае ахоп 12,2 метра.*





*Дуб Вальдэмарсэген,*
*самы вялікі дуб Даніі.*
*Ахоп ствала 9,5 метра,*
*узрост больш за 1000 гадоў.*

*Дуб Дзікі Бул,*
*самы вялікі дуб Галандыі.*
*Узрост каля 1000 гадоў.*





*Дуб-Гільяціна.*
*Францыя,*
*правінцыя Брэтань.*
*Вышыня 20 метраў,*
*ахоп 9,65 метра,*
*узрост больш*
*за 1000 гадоў.*



*Галоўны дуб (таксама мае назву Дуб Робіна Гуда). Згодна з легендай, дрэва было штаб-кватэрай народнага любімца Робіна Гуда. Расце ў знакамітым Шэрвудскім лесе, Англія. Вышыня 25 метраў, узрост болей за 1000 гадоў.*

Так здарылася, што задума напісаць невялікі артыкул пра дуб ператварылася ў сапраўднае даследаванне. Чым больш зацягвала тэма Бялыніцкага дуба, тым больш адкрывалася цікавых і захапляльных матэрыялаў. Хацелася б напісаць значна болей, хаця далёка не пра ўсё ёсць магчымасць распавесці.

Але ж галоўная думка, якой хочацца падзяліцца з чытачамі, заключаецца ў тым, што стаўленне да дрэва на нашай зямлі было заўсёды паважлівае. А пасадзіць дрэва спакон вякоў лічылася адной з самых важных справаў у незлічоных пакаленнях народаў усяго свету. І таксама, зразумела, у нашых продкаў-беларусаў.

Цяпер застаецца толькі нам, тым, хто лічыцца беларусамі-нашчадкамі, паставіцца да памяці продкаў з павагай і разуменнем.

Фотаздымкі:
10, 11, 13 – з сайта «*Глобус Беларусі*»;
12 – фота *Interfax.by;*
14, 15, 17–20 – з архіву *Кіеўскага эколага-культурнага цэнтра;*
16 – з сайта «*Visitestonia.com*».
З прыватных архіваў аўтара, жыхара Бялынічаў Яўгена Камарова, спадарыні Н.

## Спіс літаратуры

1. Акты Виленской Археографической Комисии. Т. IX. Вильна, 1878.
2. Баршчэўскі Ян. Шляхціц Завальня або Беларусь у фантастычных апавяданнях. Мн., 1990.
3. Богданович А. Е. Пережитки древнего миросозерцания у белорусов. Гродно, 1895.
4. Довнар-Запольский М. Заметки по этнографии белорусов. // Живая старнна. Вып. III. 1893.
5. Зайкоўскі Э. Беларусы ведалі сваіх герояў. // Спадчына. 1995. №2. С. 193–200.
6. Зеленин Д. К. Тотемистический культ деревьев у русских и белорусов. // Известия АН СССР. Отделение общественных наук. 1933. №8. С. 591–629.
7. Иван Купала (в д. Углах Слуцкого уезда Минской губернии) // Этнографическое обозрение. 1891. №4. С. 150–192.
8. Историко-юридические материалы. Вып. 21. Витебск, 1891.
9. Историко-юридические материалы. Вып. 22. Витебск, 1891.
10. Кісялёў У. М. Пуцявінамі Наднямоння. Мн., 1994.
11. Костко В. Целебные деревья в Белоруссии. // Живая старина. Вып. III. 1906.
12. Легенды і паданні. Мн., 1983.
13. Ляўкоў Э. А. Маўклівыя сведкі мінуўшчыны. Мн., 1992.
14. Максимов С. В. Обитель и житель (Очерки Полесья). // Древняя и Новая Россия. СПб., 1876.
15. Местечко Жировичи и его достопримечательности. // Литовские Епархиальные Ведомости. 1880. №49.
16. Никольский Н. М. Дохристианские верования и культы днепровских славян. М., 1929.
17. Опросные листы 1924 года по Минскому и Борисовскому уездам. // Архіў аддзелаў археалогіі Інстытута гісторыі НАН РБ. Справа №71.
18. Опросные листы 1924 года по Слуцкому уезду. // Архіў аддзелаў археалогіі Інстытута гісторыі НАН РБ. Справа №73.
19. Покровский Ф. В. Археологическая карта Виленской губернии. Вильна, 1893.
20. Рыков П. С. Раскопки в Ошмянском уезде Виленской губернии. Вильна, 1914.
21. Тышкевич К. О курганах в Литве и Западной Руси. Вильна, 1865.
22. Черновская Мария. Остатки славянского баснословия в Белоруссии // Вестник Европы. 1818. №21–24. С. 116–117.
23. Эремичь Иван. Очерки белорусского Полесья // Вестник Западной России. Год V. 1867. С. 95–117.

# З УСМЕШКАЙ ПРА СЦЕЖКІ

Не істотна, які народ, не істотна, краіна якая –
адзін і той жа заўсёды кот з вакна за табой назірае.

Не варухне сваёй галавой, ён ведае гэта даўно –
разявака адзін і той глядзіць у яго вакно.

Зоркі на небе раскідае чорт! Але не хвалюйся, Божа:
будзе марыць пра вуліцу кот, па доме ўздыхаць падарожнік.*

## Сцежка першая і галоўная

Адзін і той жа дзед, у адным, а можа і не ў адным дзяцінстве распавядаў, што шмат стагоддзяў таму нашы продкі з вялікай павагай ставіліся да дарогі. Для іх, казаў той дзед, яна была святым і таямнічым аб'ектам. Лічылася, што дарога ўзнікае па волі Бога і павінна звязваць асобныя кропкі прасторы ў адзіны шлях. Кожны такі шлях меў сваё імя – і дзед называў імёны некаторых дарог. Пачынаў ён, як заўсёды, з Гусінага Шляху (тады яшчэ ніхто не ведаў, што такое Milky Way, і толькі пачыналі карыстацца словазлучэннем «Млечны Шлях»). «Гусіны Шлях, – казаў дзядуля, – гэта дарога, па якой птушкі ляцяць у вырай…»

Зразумела, дзеці час ад часу ў гэтым месцы дзедавага аповеду пачыналі смяяцца, і тады стары распавядаў ім пра назвы дарог, больш зразумелыя для іх – пра Перуноў Шлях, Змяіную Дарогу, Мядзведжую Сцежку, Сунічную Паляну ды іншыя – пра загадкавыя з'явы на дарогах, пра скрыжаванні і ростані.

Дзеці моцна ўражваліся, а дзед, як сапраўдны сівы настаўнік, тлумачыў, што, па разуменні старажытных беларусаў, у кожнай дарогі былі свае асаблівасці, свой характар, таму дарогу трэба было паважаць і шанаваць. Амаль што любая дарога, болей ці меней працяглая, казаў сівы знаўца, прыводзіла раней ці пазней да моста, броду ці пераправы. А гэта вельмі важны момант, звязаны з уяўленнямі пра шлях.

Яшчэ распавядаў ён, што існавалі шматлікія традыцыі і абрады, калі адпаведна з рознымі выпадкамі, здарэннямі, прыроднымі з'явамі людзі

* У якасці эпіграфа выкарыстаны верш Вячаслава Казакевіча.

рыхтавалі і прыносілі да сваёй дарогі падарункі, пазначалі і ўпрыгожвалі асобныя месцы.

Вельмі цаніліся рэчы, знойдзеныя на дарозе. У большасці такія знаходкі мелі пазітыўнае значэнне і набывалі знакавы, сакральны характар, нібыта робячы пэўны намёк на тыя ці іншыя падзеі ў будучыні.

Час ішоў, і ўжо тыя дзеткі, пражыўшы жыццё, перадавалі сваім унукам веды, якія перадаў ім калісьці адзін і той жа дзед. Яны распавядалі (такім чынам перадаючы, што называецца, з пакалення ў пакаленне), што гаспадаром дарогі і ахоўнікам вандроўнікаў з'яўляецца Бялун. Што гэта – другое імя старажытнага Белабога, легендарнага прабога, бацькі Пяруна. Людзі заўсёды ведалі, што робіць ён толькі добрыя справы. Што з'яўляецца толькі ўдзень, у выглядзе мужчыны сталага веку з сівымі валасамі, калі-небудзь з белай барадой, а іншым разам і без барады. Трымае ў руцэ кій і апрануты ў белыя адзенні. Гэта ён дапамагае вандроўнікам знайсці дарогу ў гушчары, таму з даўніх часоў бытуе прымаўка – «без Бялуна цёмна ў лесе».

Кажуць, што ўва ўсе часы вельмі любіў ён пажартаваць – напрыклад, мог з'явіцца ў полі пасярод жніва і разам з жанчынамі пачаць жаць жыта. А по-



*У ролі Бялуна – вядомы беларускі паэт Сяргей Законнікаў (фота В. Дубоўскага).*

тым вырашыць раптам зрабіць падарунак – нечакана ўзнікаў вялікі мяшок, які трымаўся ў яго на носе. Дзед зваў добрага работніка ці работніцу і прасіў выцерці яму нос. Калі чалавек наважваўся гэта зрабіць, мяшок падаў, адтуль выкочваліся залатыя манеты, а дзядуля знікаў. Так чалавек атрымліваў нечакана божы падарунак, а людзі казалі, што ён «пасябраваў з Бялунам». Звычайна гэта ўсё і адбывалася на дарозе ці побач з дарогай.

Хоць дарогу занадта рамантызаваць не варта. Заўсёды людзі ведалі, што гэта – нічыйная зямля, небяспечны шлях, да якога трэба ставіцца вельмі асцярожна – там можна сустрэць самых супярэчлівых па сваёй сутнасці людзей і істот. Таму вылучаліся месцы небяспечныя і святыя. Асобнае значэнне мелі камяні, крыніцы, дрэвы ўздоўж дарогі, за якімі таксама прыглядаў Бялун.



## Зусім іншая сцежка

Ішлі часы, змяняліся эпохі. Адыходзілі ўсё далей таемныя сцежкі, чароўныя камяні пры дарогах ды шляхі, якія ахоўваў сівабароды стары. І вось надышла чарга перадапошняй эпохі. Савецкай. І стала зразумела, якія шчаслівыя былі нашы далёкія продкі. Падумаеш, ім пры пераездзе з пункту «белае» ў пункт «чорнае» ці з кропкі «нізкай» у кропку «высокую», усяго толькі і трэба было – уцячы калі-небудзь ад мядзведзя-бадзягі ці, на-



*Канец 1970-х – пачатак 1980-х, вул. Калініна. Звычайны савецкі тратуар («праектны»). Побач сцежка («альтэрнатыўная» – каб хадзіць). Справа бачны драўляны плот СПТУ-40.*



*Сярэдзіна 1990-х. Сцежка падлягае ўладкаванню і набывае самастойную «афіцыйную» функцыю. Тратуар пакуль што застаецца такі, які і быў з канца 1970-х. Уздоўж сцежкі пасаджаныя маладыя дрэўцы. Вучылішча змяняе назву на ПТУ-217.*

прыклад, ад ваўкалака. Пераскочыць брод ды з высокай гары скаціць пару валуноў на пераследнікаў.

Ніякіх табе аэрапланаў, што бамбяць бедную тую дарожаньку, ніякіх замініраваных «шасэ» і «жалезных дарог», па якіх імчаць страшныя, пачварнага выгляду «жалезныя коні» і ўзлятаюць у паветра разам з тым жа мостам ці пераправай, што апынуліся на іхным шляху! Ну, скажыце, ці возьмецца спадар Бялун ахоўваць такое вычварэнне?



*Сярэдзіна 2000-х. «Афіцыйна прызнаная» сцежка выконвае нават больш галоўную ролю ў пешаходным руху, чым «дэкаратыўны» тратуар. Дрэвы паміж тратуарам і сцежкай ужо значна падраслі. Вучылішча набывае статус «ліцэя».*



*2015 год. Сцежка ўздоўж агароджы навучальнай установы, як дапаможны сродак перамяшчэння людзей, нарэшце знікае. Паняцце «тратуар» пачынае адпавядаць свайму непасрэднаму значэнню. Дрэвы злева і справа ўтвараюць сапраўдную алею. Навучальная ўстанова чарговы раз змяняе сваю нумарацыю і становіцца Ліцэем №17.*




*У Магілёве напрыканцы 60-х – у пачатку 1970-х.*

## Сцежка ў нікуды

Карацей, перажыўшы чарговую навалу, нібыта вяртаемся крыху да памяці продкаў. Сыходзяць у мінулае жудасныя сімвалы сацыялізму: «браневікі», абабітыя фанерай і ўпрыгожаныя чырвонымі сцягамі, якія едуць па дарозе пасярод калоны дэманстрантаў падчас святкавання рэвалюцыйных юбілеяў; каменныя ідалы пасярод плошчаў, якія ўздымаюцца не горш, чым набор драўляных статуй князя Уладзіміра ў Кіеве; «Правильной дорогой идёте, товарищи!» – гэта хрыпіць жудаснай якасці ўзмацняльнік; «Урр-р-а-а-а!!!» – нясецца ў адказ нястройны хор соцень глотак, якія паспелі ўжо з раніцы глынуць таннага «чарніла» савецкага разліву…

Ніхто не заўважае старца ўздоўж дарогі, чые сівыя валасы кудлаціць вецер, а белая вопратка здаецца не па сезоне лёгкай. Не хочацца яму жартаваць, няма радасці ў яго вачах. Такую дарогу ён дакладна не хоча ахоўваць…




*Тут яшчэ «Ленин всегда живой» (канец 70-х – пачатак 80-х).*



*А тут ужо змянілася «крыша» (сярэдзіна 90-х).*

## Сцежка Бялына

А вось жа ёсць сугучча ў імёнах Бялуна-Белабога і летапіснага спадара Бялына! Лічыцца, што менавіта нашчадкі Бялына – Бялынічы (па аналогіі, напрыклад, як у Радзіма – нашчадкі Радзімічы, а ў Святаслава – Святаславічы) заснавалі паселішча, па часе прыкладна ў XII стагоддзі. Гэтыя звесткі захаваліся ў запісах іераманаха Васілія (Жудро), які служыў у Бялыніцкім манастыры Раства Багародзіцкай Царквы на пачатку XX стагоддзя. Яшчэ ёсць артыкул у газеце «Могилёвские губернские ведомости» за 1900 год: «Бялынічы атрымалі сваю назву ад славяніна Бялына, імя якога сустракаецца ў актах XII стагоддзя. Назва гэта складае імя па бацьку і паказвае, што пасёлак заснаваны калі не сынамі Бялына – Бялынічамі, то яго блізкімі нашчадкамі».

Заўважана многімі бялынічанамі, што на працягу апошніх год трыццаці кожную вясну ў нашым мястэчку адбываўся адзін і той жа своеасаблівы рытуал. У час, калі снег ужо сышоў, а трава толькі-толькі набірала моц, насупраць будынка мясцовага паштамта з'яўляліся людзі з рыдлёўкамі.

Тут нашы краязнаўцы тэрмінова рыхтавалі сход! Аматары-этнографы хапалі алоўкі і паперу, каб занатаваць ва ўсіх дробязях старажытны вясновы абрад. Мясцовыя археолагі з нецярпеннем чакалі вынікаў у пошуках скарбаў. Фатографы нацэльвалі аб'ектывы на тэрыторыю перад паштам-



*Від ад пошты.*

там, каб увекавечыць і першае, і другое. Ажыятаж! Але раптам з-за рога ўстановы з’яўляўся адзін і той жа кіраўнік, і з гучным загадам «Капайце лепей!» уся абрадная, а разам з ёй археалагічная ды этнаграфічная рамантыка знікала.

Аказваецца, паштовыя работнікі проста перакопвалі сцежкі, што праз клумбы і газоны па дыяганалі былі пракладзены пад вокнамі іхнага будынка. І летам, і ўвосень, і вясной кліенты ўпарта, з года ў год, не хацелі хадзіць па Т-падобным тратуары, што пралягае насупраць цэнтральнага ўваходу.



*Непрыкметная сцежачка злева ад цэнтральнага ўвахода на пошту (сярэдзіна 1990-х).*



*Забарыкадаваная сцежка справа ад увахода (2013).*






*З нагоды перакрыцця народнага шляху (сцежкі) часам утвараўся нават сапраўдны форум. Рэзананс!*

## Згубленая сцежка

Кажуць, што ў старажытныя часы існавала на нашай зямлі геніяльная традыцыя: дзе ходзяць людзі – там і ўзнікае дарога. Пагадзіцеся, ідэя ўражвае сваёй простасцю. У параўнанні, напрыклад, з некаторымі тратуарамі – столькі спецыялістаў працавалі над іх з'яўленнем, а людзі ўсё роўна пракладалі сцежкі зусім «не там».

Нават калі ўжо пачалі з'яўляцца новыя тэхналогіі, у некаторых мясцовасцях захаваліся своеасаблівыя няпісаныя правілы – пасля заканчэння будоўлі дома спачатку людзі пратоптвалі сцежкі на прыбранай ад будаўнічага смецця зямлі, і толькі потым, па гэтых сцежках, размячалася тэрыторыя, дзе рабіць тратуар. Зноў жа, заўважце – там, дзе выбралі людзі.

Потым традыцыі так імкліва мяняліся, што, напрыклад, за савецкім часам не тое што шукаць іх, але і ўвогуле зразумець якую-небудзь логіку было складана. Тым больш, у справе будаўніцтва айчынных тратуараў. Відаць, нейкую рацыянальнасць маглі бачыць толькі тыя дасведчаныя, хто валодаў марксісцка-ленінскай тэорыяй. Астатнія білі абутак аб нязручныя пліты, чапляліся за арматуру, вывіхвалі ногі ў ямках і выбоінах – усведамляючы, што калі яны што і не разумеюць, дык за іх дадумаюць «таварышы».



*Адна з многіх сцежак савецкіх навабудоўляў на магілёўшчыне у 70-я XX стагоддзя.*

Напэўна, была свая адмысловая логіка ў будаўнікоў сацыялізму: няхай, напрыклад, ворагі-імперыялісты паспрабуюць хутка захапіць той жа паштамт – яны ж пераламаюць ногі яшчэ на далёкіх падыходах да яго…




*Звычайны савецкі тратуар на пачатку 1990-х.*



*«Альтэрнатыўная» сцежка ўздоўж тратуара ад гасцініцы ў 1990-я (сам тратуар злева, за кустамі).*



*Да пачатку 1970-х вуліца Калініна не заварочвала да цяперашняй аўтастанцыі, а працягвалася па лініі вось гэтага тратуара. Пасля таго, як усе дамы тут патрапілі пад знос, засталося шмат садовых дрэваў (яблыні, грушы, слівы), якія пазней працягвалі расці ўжо ў створаным на гэтым месцы парку. Прама насупраць помніка, справа, быў сад сям'і Смаляроў, крыху далей участак сям'і Французавых. За помнікам, злева, прыкладна на месцы бліжэйшых бачных дрэваў было Бялыніцкае лясніцтва.*
*Старая аўтастанцыя месцілася ў свой час на ўскрайку мястэчка, а сёння – амаль што ў цэнтры, на рагу «50-годдзя Кастрычніка» і Ленінскай.*

## Сцежкі «да высокіх інстанцый»

А ў нас з тых часоў застаюцца не толькі сцежкі, але і менталітэт. Адну са сцежак мясцовыя жыхары называюць «дарогай у нікуды». Раней гэта быў сапраўдны тратуар, які вёў ад аднаго з адміністратыўных будынкаў да цэнтральнай плошчы. Але аднойчы, прама ўпоперак зручнага для людзей шляху, вырас бетонны бардзюр з жалезнымі парэнчамі. І тратуар «абарваўся», уткнуўшыся ў наступны шэдэўр «стратэгічнага прызначэння».

А пешаходная дарожка так і не з'явілася. Аўтамабільная службовая стаянка ёсць. Праезд да яе – цудоўны. Побач вялізны газон, які мае на мэце

ўпрыгожыць увесь ландшафт. Але з ім кожную вясну адбываецца такая самая гісторыя, як і з тэрыторыяй насупраць паштамта. Традыцыйна ён ускопваецца, у свежую зямлю ўторкваюцца шыльды «Проход закрыт!», «По газонам не ходить!», «Обходить вокруг!» ці нешта падобнае да таго. Праз тыдзень, праўда, шыльдачкі кудысьці знікаюць, таму што тыя, хто пісаў, ужо самі ходзяць па добра вытаптанай сцежцы. З той простай нагоды, што больш і няма дзе хадзіць.

Так і цягнецца год за годам: звычайныя пешаходы газоны не топчуць, хвалююцца за прыгожую траву спецыяльных сартоў – і ходзяць па праезджай частцы. А кіроўцы аўтатранспарту пра гэта нічога ведаць не хочуць – яны сігналяць тым, хто замінае ім ехаць. З гэтай нагоды аматары прыгожай травы (гл. пешаходы) то боўтаюцца на новых бардзюрах, то завісаюць на прыгожай загарадзі важнай установы, то перапыняюць свой шлях па новым асфальце і вяртаюцца назад – карацей, саступаюць дарогу, як умеюць. Проста так склалася гістарычна – пракласці пешаходную дарожку для іх так і забыліся.



*Менавіта па гэтай прамой лініі (кірунак на машыну і елку за ёй, на заднім плане) некалькі стагоддзяў да Кастрычніцкай рэвалюцыі існаваў гістарычны праезд у шляхецкі фальварак. Пасля рэвалюцыі тут шмат гадоў была пустка. Пасля Другой сусветнай вайны да пачатку 1960-х той жа праезд вёў да аднапавярховых драўляных будынкаў райвыканкама (цяперашнія будынак рэабілітацыйнага дзіцячага цэнтра). З пачатку 1960-х да сярэдзіны 1980-х гэты самы шлях служыў пад'ездам да СШ №2. Да пачатку 2000-х заставалася пешаходная дарожка (да натарыуса, аўташколы, спартыўнай школы).*



*Сёння тут*
*тратуар абрываецца.*



*Так і ходзім…*



*Як з’явіцца машына,*
*тады – ці ўлева*
*на агароджу,*
*ці ўправа на газон.*

## Крышку дарожнага постмадэрнізму

Нельга схаваць такі факт, што некаторыя нашы сучасныя сцежкі прэтэндуюць на званне «дарога-сюрпрыз» (тут дарэчы прыдалася б расшыфроўка «**сюр**рэалістычны **прыз**»). Напрыклад, прама пасярод адной з іх зроблена дзіцячая пляцоўка (!).

Звычайна дарога праектуецца і будуецца як дарога, а месца адпачынку для дзяцей адпаведна будуецца як асобны аб'ект. У нашым выпадку раптам прама пасярод тратуара ўзнікае дзіцячы комплекс (з горкамі, лесвічкамі, лабірынтамі і г. д.). Дарожка раздвойваецца ўправа і ўлева, прымае ромбападобную канфігурацыю і зноў аб'ядноўваецца за пляцоўкай.

Прыходзяць розныя думкі наконт логікі гэтай канструкцыі. Можа быць, гэта мясцовае РАУС спраектавала адмысловы тэставы аб'ект на каардынацыю рухаў? Калі, напрыклад, ты здолееш пасля працы абысці па ромбападобнай сцежцы пляцоўку – тэст прайшоў. Калі ўрэзаўся ў дзіцячую горку – прабач, начуеш у аддзяленні.

Ці, магчыма, усё значна прасцей? У праектанта была дрэнная адзнака па асноўнай спецыяльнасці?



*Чалавек на здымку пэўна не спяшаецца. Але часам тыя, хто спяшаецца, ідуць не па мудрагелістаму тратуару, а па прамой, праз дзіцячую пляцоўку.*

Не раз было заўважана ў гэтым месцы, што людзі, калі спяшаюцца, не ідуць па «ромбах» раздвоенай дарожкі, а скарачаюць шлях прама па пяску «дзіцячай» тэрыторыі. Што толькі пацвярджае нашы назіранні – дарогу пажадана пракласці там, дзе людзям зручна хадзіць. Тут радуе хаця б тое, што дзіцячую пляцоўку не зрабілі пасярод праезджай часткі.

## Добрай дарогі!

Ёсць яшчэ шмат сцежак, якія пракладаюцца «напрамкі» і не супадаюць з «праектнымі накірункамі». Напэўна, усё ж такі не трэба гэтага палохацца – забараняць, загароджваць ці забруджваць дарогу, па якой людзям зручна ісці. А наадварот – уважліва паставіцца, убачыць правільны кірунак, дапамагчы тую самую сцежку зрабіць сапраўдным шляхам.

Па такой дарозе, калі бачна, што да яе праявілі ўвагу, значна весялей рушыць. І людзей прыемных сустрэнеш, і справы вырашыш нечакана хутка, і дадому паспееш учасна.

А хтосьці, можа так здарыцца, заўважыць побач з дарогай прыгожага мудрага дзеда ў белых адзеннях, які па-добраму ўсміхнецца ў сівую бараду.




*Бялыніцкія вуліцы і сцежкі.*
*(Здымак з будынка пошты.)*

# ДРУЦЬ ЯК ЧАСТКА СУСВЕТУ

Цяжка ўявіць сабе зараз, але былі часы, калі на нашай зямлі не існавала ні хуткасных аўтатрас, ні «грунтовак», ні прасёлачных дарог, ні нават больш-менш прыстойнай каляіны паміж двума суседнімі лясамі. Адзіным шляхам для людзей была вада. Па рэках перамяшчаліся на лодках на невялікія адлегласці па штодзённых патрэбах, і па іх жа сыходзілі на доўгія месяцы, а то і гады ў далёкія паходы на больш вялікіх судах.

Па водных шляхах вандравалі, шукаючы шчасця на новых, не абжытых яшчэ месцах. Уздоўж рэк ці азёраў, у лясных гушчарах, што займалі ўсю нашую зямлю, сяліліся і будавалі жытло.

Ручаі, пратокі, крыніцы, ускрайкі балот бралі за арыенцір, калі адыходзілі далёка ад дому.

Рака, на якой калісьці пасяліліся прапрапрабялынічане, спакон вякоў называлася Друць. Існаванне любой ракі можна лічыць унікальнай з'явай. Можна паставіць плаціну, можна накапаць каналаў, можна змяніць мясцовы ландшафт, але спыніць рух вады ўсё ж такі немагчыма. І вось, уздоўж Друці ўтвараліся і знікалі паселішчы, людзі гуртаваліся і разбягаліся, а рака тысячагоддзямі моўчкі несла свае воды, застаючыся сведкай многіх і многіх падзей.



На сёння складана сабе ўявіць, што рака ці возера не маюць сваёй назвы. Інфармацыйныя тэхналогіі, сістэматызацыя ведаў, наяўнасць сучаснай картаграфіі раскладаюць любую тэрыторыю па раёнах, квадратах, участках і гэтак далей.

Але калісьці ўсё толькі пачыналася, і назва геаграфічнага аб'екта павінна была не толькі з'явіцца, але і захавацца ў часе, замацавацца ў свядомасці – і мясцовых жыхароў, і чужынцаў, – застацца ў памяці пакаленняў. Таму любое імя, дадзенае нашымі продкамі той жа рацэ, мела на мэце адлюстраваць



*Фотаздымкі ў артыкуле выконваюць функцыю асацыятыўных ілюстрацый, звязаных з выявай самой ракі ў розныя часы. Напрыклад, – мост цераз Друць, від збоку Задруцкай Слабады. Справа – будынак вадзяногa млына. Злева – забітыя ў дно некалькі паляў (канец XIX ст.).*



*Той самы мост у пасляваенныя гады. Млын яшчэ захоўваецца. Злева стаяць больш удасканаленыя палі-ледарэзы.*

нейкія вельмі важныя моманты ці паняцці ў іх светаўспрыманні. Менавіта таму гідронімы цягам тысячагоддзяў захоўвалі сакральнае значэнне.

Само слова «Друць» і на падсвядомым, і на свядомым узроўні ў мясцовага жыхара як носьбіта тутэйшай мовы не знаходзіць прамых асацыяцый. Прыходзяць розныя думкі, і ўзнікае пытанне – які сэнс укладалі ў назву далёкія продкі, калі называлі важны для іх камунікацыйны, у вялікай ступені інфармацыйны, аб’ект – раку, дзе праходзіла іхняе жыццё, раку, якая звязвала іх з навакольным светам?



*Дарэвалюцыйны здымак пачатку XX стагоддзя. Па часе звязаны з ранняй вясной (Хросны ход на Вялікдзень). Добра бачныя рэшткі разліву Друці, але вада ўжо памалу вяртаецца ў рэчышча. Від са Слабады.*



*Від таго самага месца праз стагоддзе.*

**Гістарычная даведка №1**

*Вядома, што славянскае насельніцтва з’явілася на тэрыторыі сучаснай Беларусі прыкладна ў V ст. н. э. і стала замацавалася ў перыяд да VIII–IX ст. Лічыцца, што да прыходу славянскіх плямёнаў у нас месціліся балцкія плямёны (гісторыкі сыходзяцца ў меркаванні, што балты існавалі тут больш за тысячагоддзе да прыходу славян). Такім чынам, адбылося змешванне перасяленцаў з захаду (паўднёвага захаду) з аўтахтонным насельніцтвам да пачатку VIII–IX стагоддзя. Таму сучасныя навукоўцы выкарыстоўваюць тэрмін «балцкі субстрат» у дачыненні да балта-славянскага насельніцтва, якое пражывала пэўны час і на тэрыторыі цяперашняй Беларусі, і на захадзе Расіі. Гэтае насельніцтва таксама займала немалыя абшары ў розных рэгіёнах сучасных прыбалтыйскіх рэспублік, Польшчы і сучаснага Украінскага Палесся.*

*Прама ці ўскосна пра гэта сведчаць розныя раннія летапісныя крыніцы славянаў, сагі скандынаваў, хронікі германцаў, навуковыя трактаты гісторыкаў іншых краін свету.*



Веды ў вялікай ступені нагадваюць рух вады – яны маюць свае вытокі, потым ручаямі збіраюцца ў невялічкія рачулкі, якія далей ствараюць агульны басейн вялікіх рэк, што ў сваю чаргу нясуць свае плыні ў акіян інфармацыі.

Вось і ў нашым выпадку можна сказаць – разрозненыя гістарычныя звесткі даўно ўжо сабраныя і сістэматызаваныя, усталяваліся ў сучасных даследчай, педагагічнай, інфармацыйнай прасторах. Але ж існуе прага чалавека даведацца яшчэ больш, чым яму ўжо вядома. У гэтым заўсёды адметнасць дапытлівага розуму, які задае новыя і новыя пытанні: а хто жыў на нашых землях да балцкіх плямёнаў, ад каго засталіся дзіўныя назвы, якія не надта асацыююцца ні з балцкімі, ні са славянскімі мовамі?

А нашая рака, і разам з ёй рэкі ўсяго свету, працягвае свой няспынны рух, у сваёй няспешнасці зачароўваючы людзей, якія так спяшаюцца даведацца пра яго таямніцы.



**Гістарычная даведка №2**

*Старажытнагрэчаскі навуковец Герадот, якога наступныя пакаленні калегаў-гісторыкаў празвалі «бацькам гісторыі», жыў у V стагоддзі да нашай эры. Ім была напісана гіганцкая па змесце праца, дзе ён зафіксаваў ход падзей падчас грэка-персідскіх войнаў, што цягнуліся паўстагоддзя (500–449 гг. да н. э.). Там таксама апісваюцца звычаі, культура, адметнасці вельмі многіх народаў з краінаў, дзе давялося пабываць аўтару. Упершыню ў працы Герадота з'явілася апісанне жыцця і побыту скіфаў. І што вельмі цікава для нас – апісанне таямнічага народа з назвай «неўры», месцам пражывання якога лічацца лясныя гушчары, што шчыльна пакрывалі тэрыторыю цяперашняй Усходняй Беларусі.*

*Вось што пісаў Герадот пра таямнічую краіну Няўрыду і яе жыхароў:*



*«…Атрымалася гэтак, што за адно пакаленне перад паходам Дарыя* яны пакінулі сваю краіну з прычыны змеяў. Справа ў тым, што шмат змеяў з'явілася ў іхняй краіне, а яшчэ больш напаўзло да іх зверху з пустэчаў. Неўры ж, выціснутыя імі, пасяліліся разам з будзінамі, якія пакінулі сваю зямлю. Гэтыя людзі, напэўна, чараўнікі. І скіфы, і эліны, якія жывуць у Скіфіі, распавядаюць, што раз на год кожны неўр становіцца на некалькі дзён ваўком, а потым зноў прымае чалавечае аблічча. Я не веру гэтым аповедам**, але так яны гавораць, і аповеды сведчаць клятваю…»*

* Паход Дарыя адбыўся ў 513 годзе да н. э.

** Прынцып Герадота быў такі: «Я абавязаны перадаць тое, што гавораць, але не абавязаны ўсяму верыць…» Верны свайму правілу, гісторык дакладна зафіксаваў звесткі пра неўраў.



Чуецца толькі асцярожны ўсплёск, птушка зрываецца ў прыцемках з галіны ўзбярэжнага куста, патрывожаная чымсьці ці кімсьці. Нечакана, – у драўляных лодках, бязгучна перасякаючы водную гладзь, у святле промняў заходзячага сонца з'яўляюцца ці то людзі, ці то прывіды – у ваўчыных скурах, накінутых на галовы і на плечы. Імгненне – і застаюцца толькі невялікія хвалі, якія дабягаюць да берага і штосьці ўсхвалявана распавядаюць высокай узбярэжнай траве. Яшчэ праз вельмі кароткі час усё сціхае…

Ужо даказана сучаснай навукай, што загадкавы народ, пра які распавядаў Герадот, не меў дачынення да скіфаў. Адны сцвярджаюць, што неўры – гэта прывандравалыя да нас продкі скандынаваў. Яшчэ ёсць меркаванне, што неўры адносіліся да аднаго з адгалінаванняў старажытных кельтаў (па сутнасці, гэта не супярэчыць скандынаўскай версіі), якія пражывалі ў І тысячагоддзі да н. э. практычна на ўсёй тэрыторыі цяперашняй Еўропы. Гэтыя гіпотэзы не абвяргаюцца сучаснымі гісторыкамі, але стаўленне да іх вельмі стрыманае. Там, дзе, напрыклад, пералічваюцца народы, якія мелі дачыненне да земляў Беларусі, то пасля славянаў, балтаў, нават фіна-ўграў, скандынавы і кельты маюцца на ўвазе ў сціплым пазначэнні «і іншыя народы».



Той момант, што далейшая гаворка пойдзе больш пра кельцкую тэму, ніякім чынам не азначае прапановы чытачу бясспрэчнай ісціны, якая мае глыбокае навуковае абгрунтаванне.

З вялікай павагай ставячыся да сучасных гістарычных тэорый, аўтар прадстаўляе хутчэй папулярную, чым навуковую версію. Ці можна нават сказаць, своеасаблівае прыгожае рамантычнае апісанне з прысутнасцю мясцовых артэфактаў.

**Гістарычная даведка №3**

*Як вядома, радзімай кельтаў была Цэнтральная Еўропа (басейн Дуная, Альпы, часткова землі Францыі і Германіі). Група кельцкіх плямёнаў склалася каля 1200 г. да н. э. Першапачатковы іх занятак – земляробства. Але ж ім належыць вынаходніцтва здабычы жалеза і сакрэтаў яго апрацоўкі. Ёсць меркаванне, што прыкладна каля VI ст. да н. э. кельты рассяліліся ў Іспаніі і Партугаліі. Праз некалькі стагоддзяў яны з'явіліся ў Брытаніі, Паўночнай Італіі, Грэцыі, на Балканах.*

*У сучаснай гісторыі трывала замацавалася думка, што, у адрозненне ад рымлянаў, кельты не заснавалі моцнай імперыі. Але ці была ў іх такая*

*мэта? Маючы зусім іншы лад жыцця, яны, магчыма, ўвогуле не жадалі парушаць сваё гарманічнае існаванне з навакольным светам. Хаця, з іншага боку, яны лічыліся адным з самых ваяўнічых народаў Еўропы.*

*У I ст. да н. э. кельты былі выціснутыя з кантынента рымлянамі і германскімі плямёнамі. Тэрыторыя іх пражывання абмежавалася Ірландыяй, Англіяй і Уэльсам. Рымскае нашэсце на Брытанію ў 43 г. н. э. яшчэ болей скараціла арэал кельтаў. У V ст. н. э. на брытанскіх выспах з'явіліся англасаксы і цывілізацыя кельтаў амаль што перастала існаваць. Найбольш трывалыя яе рэшткі захаваліся ў Ірландыі, якая не патрапіла пад рымскае валадаранне.*

**Цікавыя факты:**

- *Лічыцца, што назва сучаснай краіны Бельгіі паходзіць ад назвы кельцкага племені белгі.*
- *Рымляне называлі кельтаў на сучаснай тэрыторыі Францыі галамі.*
- *У Іспанскай правінцыі Галісія афіцыйная мова разам з іспанскай – галісійская (граматычная структура яе блізкая да партугальскай. Да XV ст. існавала адзіная галісійска-партугальская мова).*
- *Усходнія кельты, што жылі па даліне Дуная, яшчэ ў III стагоддзі да н. э. патрапілі ў Фракію, на поўнач Грэцыі. Грэкі называлі іх галатамі. У цэнтральнай вобласці ўзвышша Анатолія (сучасная Турцыя) была ўтворана краіна Галацыя. Легендарным правадыром галатаў быў воін Брэн. Праіснавала краіна да пачатку I ст. н. э. Апошні цар Галацыі Амінта загінуў у 25 г. н. э.*
- *Выціснутыя рымлянамі ў II ст. да н. э. з поўначы Італіі (так званая Цызальпінская Галія), кельты размясціліся ў Цэнтральнай і Паўночна-Заходняй Чэхіі. Гэта былі кельцкія плямёны народа пад назвай боі (дарэчы, боі лічыліся адной з самых чыстых, не змяшаных з іншымі народамі частак кельтаў). Ад іх атрымала назву Багемія (Boiohaemum – радзіма бояў). З 1526 па 1918 гг. Багеміяй афіцыйна называлася Чэхія (акрамя Маравіі), калі ўваходзіла ў склад Аўстра-Венгрыі.*
- *Ёсць меркаванне, што гістарычная вобласць Галіцыя (укр. Галычына) калісьці была заселена кельтамі (сучасныя тэрыторыі Львоўскай, Івана-Франкоўскай, часткова Цярнопальскай абласцей на Украіне і польскіх ваяводстваў – Пшэмысльскага, Жэшыўскага, Замойскага, Холмскага і інш.).*
- *У шматлікіх гістарычных крыніцах захавалася назва кельцкага племені волькі.*

– *У «Аповесці Мінулых Гадоў» («Повесть Временных Лет») згадваецца летапісны Галацічаск, які адносіцца да зямлі Полацкай: у 1071 годзе «Победи Ярополк Всеслава у Голотичьска». У «Сьпісе гарадоў далёкіх і блізкіх» канца XIV – пачатку XV ст. Галацічаск названы сярод «літоўскіх» гарадоў. Месца яго размяшчэння дагэтуль не вызначана. Існуюць некалькі версій. У першую чаргу паходжанне назвы паселішча звязваецца з верагодным гідронімам (рака Галата). Існуе версія, адпаведна якой гістарычную назву звязваюць з Голацкам (Пухавіцкі раён). Яшчэ адна версія прапануе ў якасці летапіснага Галацічаска разглядаць Галоўчын на тэрыторыі Бялыніцкага раёна (маўляў, рэчка Вабіч – прыток Друці (меркавана кельтская назва), Галацічаск – месца, дзе пасяліліся нашчадкі **галатаў** (галаў, галісійцаў) – па славянскай традыцыі названых **галацічамі**).*



## Міжрэчча

Мала хто звяртае на гэта ўвагу, але мы жывем на ўзвышшы, з якога ўсе беларускія буйныя рэкі нясуць свае воды ў розныя бакі. Так, Заходняя Дзвіна, перасякаючы краіну з усходу на захад, упадае ў Балтыйскае мора ў Латвіі (на латышскай назва ракі гучыць як «Даўгава»).

Дарэчы, «baltas» на літоўскай і латышскай мовах азначае «белы». Адпаведна, Дзвіна-Даўгава рушыць да «Белага мора». Днепр трымае шлях у Чорнае мора. Нёман сцякае ў тое ж самае Балтыйскае мора – толькі праз тэрыторыю сучаснай Літвы.

Шлях «ад Белага мора да Чорнага» быў вядомы нашым продкам спакон вякоў. Былі часы, калі ў летапіснай гісторыі яго называлі шляхам «з варагаў у грэкі».

Друць займала вельмі важнае месца на гэтым шляху. Яна была сувязным кавалкам паміж Дзвінскім і Дняпроўскім басейнамі. Выкарыстоўваючы так званыя «волакі», вандроўнікі перацягвалі па бярвенні свае судны з вытокаў рэк, якія цяклі ў бок Дзвіны, да вытокаў рэк, якія цяклі ў бок Дняпра, і наадварот.



*Малюнак 1. Знакамі ][ пазначаны волакі (кароткія сухапутныя ўчасткі паміж вялікімі воднымі маршрутамі).*

**Гідранімічная даведка***

*«Вярхоўі правага прытока Дняпра – ракі Друць, збліжаючыся з левабярэжнымі прытокамі Заходняй Дзвіны (Усвейка, Абалянка) і правабярэжным прытокам Дняпра (Адроў), стварылі важны ваенна-гандлёвы камунікацыйны вузел, які актыўна выкарыстоўваўся у X–XI стст. з дапамогай волакаў (малюнак 1).*

* З навуковай працы «Курганные древности X—XI вв. в окрестностях Друцка и друцких волоков» (аўтары М. Плавінскі, Л. Дучыц, А. Плавінскі, раздзел «Водные пути и волоки»).

*Друцкі водны шлях, які аб'ядноўваў рэкі: Заходняя Дзвіна – Ула – Усвейка –Малінаўка – Друць – Днепр, магчыма, упершыню згаданы ў познім Іоакімаўскім летапісе (Тацішчаў, 1962, с. 112) пры апісанні бітвы («за тры дні дарогі ад Смаленска») паміж войскам наўгародскага князя Уладзіміра, які рушыў на Кіеў пасля захопу Полацка, і войскам ваяводаў кіеўскага князя Яраполка. Пераход у 1021 годзе да полацкага княства Віцебскай і Ўсвятскай валасцей, якія знаходзіліся раней пад кантролем Кіева, адкрыў Полацку выхад на паўночны адрэзак магістральнага воднага шляху «з варагаў у грэкі».*

*Левы прыток Друці рака Крывая, з'ядданая праз волак з вярхоўямі ракі Абалянкі (прытока Лучосы), выводзіў да Заходняй Дзвіны паблізу Віцебска. Такім чынам, ужо пачынаючы з XI ст. не толькі Полацк, але і Віцебск мелі выхад у Днепр праз Друць».*

## Вытокі

Дастаткова лёгка плыць па цячэнні ды вельмі няпроста падымацца да вытокаў. Тут усё адбываецца так, як і з пошукамі ісціны. У многіх мовах ёсць такое слова.

«Ісціна» – «тое, што існуе ў рэчаіснасці, адпавядае рэальнаму стану рэчаў». Прасцей кажучы – тое, што **ёсць**, нягледзячы ні на якія ўмовы і ўмоўнасці. Знаходзіцца ў вялікім значэнні і ў пэўным стане «існасці» – «існуе».



З ангельскай «існаваць» перакладаецца як «ex**ist**». З іспанскай, партугальскай, галісійскай – «ex**ist**ir», з нямецкай «ex**ist**ieren», з нарвежскай «ex**ist**ere», з лацінскай «ex**ist**unt». Першая частка гэтых словаў «ex» азначае «ад, з» (адказвае на пытанне «адкуль?»). Корань ва ўсіх пералічаных словах аднолькавы – «ist».

У польскай мове ўсё ж захавалася слова з такім самым каранём «**ist**nieć» (існаваць). У мовах беларускай (існаваць) і ўкраінскай (існувати) згубілася буква «т», але яна засталася ў каранях словаў «**іст**ота» (*укр.* **іст**ота, *рус.* существо), «**іст**отны» (*укр.* **іст**отний, *рус.* существенный). У расейскай глыбока схавалася за дзвюма часткамі «сущь» – «**есть**» (параўн. з лацінскім **est** – «ёсць, з'яўляецца»).

Галоўнае, што праглядаецца ў гэтых назіраннях, – шмат аналогій у асноўных, базавых паняццях, якія глыбока схаваныя, невідавочныя, але паходзяць ад нашых даўніх агульных каранёў. З часоў, калі народы ўсёй сучаснай Еўропы былі значна бліжэй адзін да аднаго.

## Плыні

Працягвае тэму нялёгкага шляху да нашых беларускіх «вытокаў» іх моўны расейскі адпаведнік – слова «исток» (бел. «выток», укр. «витік»; славянская руна 1 мае такое самае значэнне). Словы «East» (у ангельскай – «усход», у ісландскай – «выток») захаваліся ў аднолькавым варыянце напісання. У галандскай «выток» – oosten, у нарвежскай і дацкай – øst, у шведскай – öst.

І, нарэшце, у нашым асацыятыўным шэрагу з'яўляецца слова, непасрэдна звязанае з вадой – «лёд» (па-галандску – ijs, па-ангельску – ice, па-нямецку – eis, а на шведскай, нарвежскай, дацкай, ісландскай пішацца і гучыць як «is» (дарэчы, сама назва «Ісландыя» (Island) перакладаецца, як «зямля, пакрытая лёдам»). Таксама ў розных пісьмёнах скандынаўскага паходжання захавалася руна «лёд», «пакрываць лёдам» («isar», «iss», «isa»).

Так складалася паступова – развіваліся мовы, змяняліся і захоўваліся сэнсавыя нюансы. Але, як адзначаецца ў многіх крыніцах, каранёвае спалучэнне гукаў «іс» у любым выпадку звязана з вадой.

«Халодны выток», «замерзлая вада» – кажуць, што тыя людзі, якія калісьці пасяліліся ўздоўж беларускіх рэк і азёраў, закладалі ў назвы разам з іншымі паняццямі такую вось адметнасць нашых мясцін. Можа быць мясцовыя прыродныя асаблівасці ўвесь час нагадвалі, што вада тут паводзіцца



па іншаму, у адрозненні, напрыклад, ад цёплых краёў, з якімі перасяленцам даводзілася параўноўваць наш клімат.

Пра гэта нагадваюць нам вадаёмы, што захавалі ў каранях сваіх назваў разам з асновай «іс» («із») вельмі каштоўную інфармацыю, час якой вымяраецца не адным тысячагоддзем: рака Іса (англ. Issa, рус. Исса – працякае ў Баранавіцкім і Слонімскім раёнах, упадае ў Шчару, прыток Нёмана); таксама возера Іса (у Віцебскай вобл.); возера Існа (на мяжы Віцебскай і Пскоўскай абласцей); рака Іслач (прыток Бярэзіны, басейн р. Нёман); рака Ізва (Навагрудскі раён, прыток Нёмана, у верхнім цячэнні мае назву Ізаўка); возера Опл**іс**а (у Браслаўскім раёне, басейн ракі Друйка); рака Дз**іс**на (працякае і ў Віцебскай вобласці, і ў Літве, прыток Зах. Дзвіны); рака Пл**іс**а (Навагрудскі раён, левы прыток Нёмана).

Яшчэ існавала традыцыя – пры перасяленні часткі народа, племені ці нейкай пэўнай родавай супольнасці на новае месца пражывання назву роднай ракі забіраць з сабой. Магчыма, тут быў такі своеасаблівы псіхалагічна-магічны момант: каб новая рака ў незнаёмых жорсткіх умовах абжывання ўжо грэла душу той старой назвай, з якой так шмат звязана ў мінулым жыцці.

Таму не дзіўна, што назва Пліса сустракаецца ў Талачынскім і Крупскім раёнах (прыток ракі Бобр). Таксама ёсць Пліса ў Смалявіцкім і Барысаўскім раёнах, прыток Бярэзіны. Рака Плісаўка на мяжы Глыбоцкага і Пастаўскага раёнаў працякае праз возера Пліса.

Тое самае можна сказаць пра назвы рэк В**і**сла (прыток ракі Віша ў Светлагорскім раёне на Гомельшчыне) і В**і**сліца ў Пінскім раёне Брэсцкай вобласці, якія перагукаюцца з назвай адной з найбуйнейшых рэк Польшчы (польск. Wisla, лацінск. Wistula, якая пачынаецца са зліцця дзвюх рэк – Charna Wiselka і Biala Wiselka (Чорная і Белая Віселка) у Мараўска-Сілезскіх Бяскідах (Заходнія Карпаты), горнай мясцовасці, вельмі блізкай і да Чэхіі, і да Заходняй Украіны, пра якую мы згадвалі ў сувязі з колішнім рассяленнем некаторых кельцкіх плямёнаў).

## Вусці

Ва ўсіх славянскіх мовах (за невялікім выключэннем) гэтае слова гучыць і пішацца падобна: ujście (*польск.*, «уйшьчe»), ústie (*славацк.*, «уустье»), ústi (*чэшск.*, «уусці»), ušća (*харвацк.*, «ушьчя»), ушће (*сербск.*, «ушьдже»), устие (*балгар.*), устье (*рус.*). На ўсіх гэтых мовах паняцце «вусце» стаіць вельмі блізка да паняцця «вусны, рот, горла» (напрыклад, у расейскай мове: «устье» – «уста», і г. д.). Якраз выключэнні з шэрагу вышэй пералічаных перакладаў і пацвярджаюць правіла: на ўкраінскай мове «вусце» – «гирло» (пераклікаецца з тэрмінам «гарлавіна (вадаёма, канала)».

У беларускай мове слова гучыць і пішацца як «вусце», адпаведна з правілам прыстаўной галоснай у беларускай і ўкраінскай мовах: возера, выток, вакол, вокны, вуліцы, вулей і гэтак далей (напрыклад, параўнальна з расейскім «уста» – «вуста» (*укр.*), «вусны» (*бел.*).

На дацкай, нарвежскай, шведскай, таксама на галандскай і нават на англійскай даслоўны пераклад слова «вусце» – «рот, вусны ракі» (напр., river mouth (*англ.*), riviermonding (*галанд.*), flodmunding (*дат.*), elvemunning (*нарвеж.*) і г. д.





*Рэшткі былога драўлянага моста цераз Друць у Бялынічах (з дадатковых канструкцый калісьці быў млын і «ледарэзы» – па́лі для драблення лёдавай масы пры вясновым крыгаходзе).*

Дарэчы, да IX стагоддзя дацкая, нарвежская, шведская і ісландская былі адзінай скандынаўскай мовай, з адрозненнямі на ўзроўні дыялектаў; самі носьбіты не ўспрымалі свае мовы за розныя ў тыя часы (якія можна пазначыць як эпоху вікінгаў); нават калі старажытнашведская і старажытнадацкая бліжэй да XIV ст. вылучыліся ў самастойныя мовы, то старажытнанарвежскую і старажытнаісландскую па-ранейшаму называлі «norrœnt mál» (паўночная мова); менавіта ісландская мова на сучасным этапе засталася найбліжэйшай да старажытнай «паўночнай».

У сучаснай ісландскай слова «вусце» захавалася як «ósinn» (старажытнаскандынаўская руна óss (малодшы футарк, IX–XI стст.) азначае «вусце»).

Усё вышэй згаданае непасрэдна датычыцца і нашай тэмы – старажытных, даславянскіх і дабалцкіх, назваў нашых вадаёмаў.

Напрыклад, рака Уса ў басейне Дняпра і рака Уса ў басейне Нёмана, а таксама рэкі **Ус**вейка, **Ус**вяча, **Ус**яжа, **Уц**ь, **Ус**віца, **Уш**а (бас. ракі Вілля/Neris), **Уш**а (бас. Дняпра), **Уш**а (бас. Нёмана), **Уш**ача, **Ушч**а, **Уз**а; азёры **Ус**вея, **Ус**вечча, **Ус**омля, **Ус**ое. Гэта далёка не поўны спіс аднакаранёвых назваў, звязаных паняццем «вусця». Сюды ж можна дадаць рэкі з нязвыклымі назвамі Аўчоса (Avchossa), Ачоса (Achossa), Бруса, Бася, Брусята, Лучоса, Ольса, Арэса.

### Легенда пра кельцкую багіню і назву сучаснай ракі



*Калісьці былі часы шчаслівага мірнага існавання аднаго старажытнага народа. Галоўнай рысай гэтых людзей, было ўменне жыць у згодзе з навакольным светам, не парушаць законы прыроды, і нават наадварот – ахоўваць, берагчы, дапамагаць існаваць дрэвам і раслінам, жывёлам і іншым жывым істотам.*

*Здаўна людзі гэтыя (а належалі яны да аднаго з кельцкіх плямёнаў) пакланяліся багіні Нямоне (іншым разам яе называлі Немаін). З'яўлялася яна вярхоўнай жрыцай пры стварэнні культавых абрадаў, ахоўніцай хатняга агменю ды багіняй-ахоўніцай усяго кельцкага роду. Яна была жонкай і спадарожніцай вялікага*

*грознага Тэўтата, які быў богам вайны і адначасова адказваў за дабрабыт і мірнае жыццё старажытных кельтаў.*

*Пазней, калі на кельцкія плямёны сталі нападаць неўтаймаваныя суседзі, у Нямоны з'явіліся ваяўнічыя функцыі, і яна стала адной з багінь, якія ахоўвалі воінаў-кельтаў і неслі разлад у стан ворагаў.*

*Ужо сцерлася ў памяці людской падзея, што прымусіла аднойчы гераічных і легендарных людзей, якіх узяла пад сваю ахову багіня Нямона, зняцца з месца і паплыць на ўсход па вялікіх рэках ды іхных прытоках. Але вядома, што калі людзі апынуліся на берагах прыгожай, магутнай ракі, што несла свае воды ў Белае мора, яны далі ёй імя сваёй ахоўніцы і ратавальніцы. Так з'явілася назва ракі, якая па-беларуску гучыць як «Нёман», па-польску «Niemen», па-літоўску «Nemunas». У мясцовых дыялектах і ў старадаўняй, архаічнай форме беларускай назвы захаваўся варыянт «Нямон» (адсюль сучаснае «Панямонне»).*



*Месца зліцця ў горадзе Каўнасе (Літва) рэк Нёмана (Nemunas) і Віллі (літоўская назва Neris). Хто ведае, а раптам гэта і ёсць адсылка да назвы «неўры» (neris/neuris – назва ракі па-літоўску прамаўляецца «нярыс»)? Рака цячэ з тых тэрыторый, дзе верагодна жыў таямнічы народ, апісаны Герадотам. Магчыма, у нацыянальнай свядомасці літоўцаў захавалася такая назва? Як, напрыклад, у сучаснай латышскай мове назва Беларусі – Baltkrievija, Белая Крывія – прамая адсылка да народа крывічаў.*

## Друць

Шмат хто з жыхароў і гасцей Беларусі заўважалі яшчэ адну цікавую асаблівасць, звязаную з беларускімі назвамі – калі словаўтваральным складам з'яўляецца *-дру* ці ў іншых выпадках *-дры*. Асабліва шмат такіх назваў на Віцебшчыне, у меншай ступені – на поўначы Магілёўшчыны.

Вось, напрыклад, рака Друйка ў Браслаўскім раёне (левы прыток Заходняй Дзвіны). Выцякае з возера Дрывяты, па яе цячэнні сустракаецца вёска Друйск і мястэчка Друя. Тут жа, недалёка, толькі на іншым баку мяжы, на тэрыторыі Літвы – населены пункт Піедруя (Piedruja) і побач возера Дрыджа (Dridža). Дарэчы, «Дрывяты» – гэта яшчэ і агульная назва групы азёраў (мае другую назву – «Друйская»).

Зусім побач, у тым самым Браслаўскім раёне, знаходзіцца вялікае возера з вельмі падобнай назвай – Дрысвяты. Меншая частка яго знаходзіцца на беларускім баку, а большая – на літоўскім (тут яно мае назву Друкшаі (Drūkšiai). Гэта ўнікальны выпадак, калі ў назвах аднаго і таго ж гідроніма захаваліся два карані: і *-дры*, і *-дру*.

Возера Дрысы ў Расонскім раёне месціцца ў басейне ракі Дрыса (Drissa), што з'яўляецца правым прытокам Заходняй Дзвіны.



*Вытокі. Друць у Талачынскім раёне.*

Усе вышэй адзначаныя назвы знаходзяцца на Віцебшчыне. І вось, нібыта ўласнаручна трымаючы вясло, мы нарэшце трапляем на самы поўдзень гэтага рэгіёна, дзе паблізу Талочына і знаходзяцца вытокі Друці.

І далей, калі мы будзем спускацца па яе цячэнні, па шляху нашай няпростай вандроўкі патрапіцца нам Друцк летапісны (цэнтр аднайменнага княства, калісьці спалены і зруйнаваны, не захаваўся на сваім гістарычным месцы як паселішча) і вёска Друцк (на тэрыторыі цяперашняга Круглянскага раёна, заснаваная на некалькі кіламетраў ніжэй па цячэнні Друці, мяркуючы па ўсім, людзьмі, ацалелымі пасля той прайгранай бітвы).

Далей, ужо ў Бялыніцкім раёне, нам трапляецца вёска Driчаны – яна знаходзіцца не на самай рацэ, крыху на адлегласці, але нібыта нагадвае, што тутэйшых жыхароў называлі па месцы пражывання ў наваколлях Друці – «дручаны», «дручане». Потым ёсць станцыя Друць, на ёй мы развітваемся з Бялыніччынай.

А ў хуткім часе наша рака, мінуўшы Быхаўшчыну, трапляе ў Гомельскую вобласць, дзе ў раёне Рагачова, пакінуўшы па правым беразе вёску Задруцце, Друць упадае ў Днепр.

Так плыні ракі, звычайнай і добра знаёмай з дзяцінства, раптам заносяць нас у іншыя прасторы, забіраюць у іншыя часы. Менавіта такім чынам водны шлях дапамагае разбірацца ў агульнай гісторыі свету, знаёміцца з радаводам свайго народа і адкрываць для сябе непасрэдную гісторыю месца, у якім мы жывём.



*Друць у раёне Чыгірынскага вадасховішча (Быхаўскі раён).*



*Месца ўпадзення Друці ў Днепр.*

***Ад аўтара***

*Да вышэй апублікаванага матэрыялу пра раку Друць, калегіяльна (гэта значыць аўтарам разам з калектывам рэдактараў, рэцэнзентаў і кансультантаў) вырашана далучыць невялічкае эсэ на тэму Заазер'я. Па сутнасці, гэта зусім іншы матэрыял, але аб'ядноўвае яго з папярэднім цікавасць да нашай далетапіснай гісторыі, кантэкст старажытнай Еўропы і наяўнасць уласна вадаёмаў Бялыніччыны. Тут не ставіцца мэта навуковага даследавання, хутчэй за ўсё, гэтую працу можна аднесці да пісьменніцкай ідэі, гіпотэзы мясцовага жыхара.*

*Адна вядомая беларуская пісьменніца, прачытаўшы абодва матэрыялы, далучылася да ідэі ўмоўна аб'яднаць іх, а таксама вызначыць іхны жанр як «эсэ-фантасмагорыя». Для мяне той факт быў вельмі нечаканым, таму што ўсё, пра што я напісаў, здавалася мне вельмі простым, лагічным і зусім не «фантасмагарычным». Але ў выніку прапанова спадабалася.*

*Такім чынам, наша фантасмагарычная вандроўка па водных шляхах Бялыніччыны працягваецца.*

## Дзве легенды з эпіграфам, гістарычнай даведкай і эпілогам

*…А можа, гэтым самым пісьменнік жадаў абудзіць цікаўнасць іншых людзей да свайго роднага Заазер'я, гісторыі Беларусі, якую вельмі любіў, імкнуўся навекі хоць гэткім чынам захаваць памяць пра дарагое сэрцу паселішча, паколькі легенды і паданні ніколі не паміраюць? Яны жывуць, перадаючыся з пакалення ў пакаленне, дапаўняюцца новымі дэталямі і змяняюцца часам да непазнавальнасці. Але ніколі не знікаюць…*

Міхась Карпечанка «Мікола Цэлеш:
чалавек-загадка, чалавек-міфатворца»,
з кнігі «Уздоўж стромы».

### 1. Легенда з прадмовай Плінія

*«Яны сапраўды лічаць – усё, што расце на дубе, паслана небам і азначае, што гэта дрэва выбрана самім богам…»* Так пісаў Пліній Старэйшы, старажытнарымскі навуковец, які жыў у І стагоддзі нашай эры, пра кельтаў.

Яны будавалі вялікія гарады, мелі свой флот і непераможнае войска, лічыліся майстрамі рамёстваў – жалеза апрацоўвалі так, што ганарыстыя рымляне зайздросцілі ім. Тое ж тычылася і керамікі. Яны стварылі ўнікальную цывілізацыю, якая моцна паўплывала на далейшае развіццё ўсёй Еўропы. Іх называлі варварамі, але іхняе мастацтва і навука былі на такім узроўні, што варварамі зараз выглядаюць тыя, хто хочуць прынізіць відавочна высокую ступень развіцця гэтага народа.

Вядома, што галоўнай сілай, якая арганізоўвала і накіроўвала кельцкую супольнасць, была магутная карпарацыя друідаў.

Самай вялікай загадкай, што засталася для нашчадкаў ад старажытных мудрацоў, з'яўляецца сістэма ведаў, якія друіды перадавалі, што называецца, з рук у рукі. Існаваў прынцыповы момант, калі інфармацыя не запісвалася і не пазначалася ніякім чынам. Мала таго, рабіць гэта жорстка забаранялася.

Друіды не проста захоўвалі веды. Гэта была высокаарганізаваная сістэма ўтрымання і перадачы ўпарадкаванай інфармацыі наступным пакаленням. Астраномія, законы фізікі, гісторыя, філасофія ўваходзілі ў сферу інтарэсаў.

Яшчэ вядома, што гэта быў глыбока асабісты працэс. Ніхто са старэйшых не прымушаў вучняў да тых ці іншых справаў. Цягам вельмі доўгага часу (да 20 гадоў), маладыя людзі знаёміліся з агульнай таемнай сістэмай, вывучалі розныя кірункі навукі і мастацтваў. Потым вызначаліся, што іх цікавіць болей за ўсё. Прычым адбывалася гэта не ў бліскучых аўдыторыях і шыкоўных кабінетах, а ва ўмовах дзікай прыроды, у дрымучых лясных гушчарах. Менавіта з лесам непасрэдна звязаныя пражыванне і навучанне друідаў, бо дрэвы лічыліся жывымі істотамі.

Антычныя гісторыкі сцвярджаюць, што грамадства кельтаў увогуле падзялялася толькі на два класы – ваяроў і друідаў. Апошнія ніколі не ўдзельнічалі ў ваенных дзеяннях, але насілі ганаровае званне «Ваяры ведаў».

Доўгія гады праводзілі настаўнікі з вучнямі ў дубровах – менавіта месца, дзе расце шмат дубоў, лічылася найбольш прыдатным для культавай перадачы ведаў.

Вось словы, якія таксама належаць узгаданаму вышэй Плінію: «Няма для іх нічога болей свяшчэннага, чым амяла і тое дрэва, на якім яна расце, – дуб. Павага іхняя да гэтага дрэва такая, што яны свяцілішчы свае размяшчаюць у дубровах, а падчас рытуалаў трымаюць у руцэ галінку з дубовымі лістамі. Ад імені дуба ствараюць яны і імёны сваіх святароў…»

**Гістарычная даведка**

*…Паглядзеўшы туды, дзе заходзіць Сонца, можна ўбачыць яго ўсход...*

*Старажытны і загадкавы Стоўнхэндж (Stan Hengues – са стараангельскай перакладаецца як «Вісячыя Камяні»), каменнае збудаванне з глыбаў гіганцкага памеру (да васьмі з паловай метраў у вышыню) недалёка ад англьскага горада Солсберы. Доўгія стагоддзі існавала легенда, што гэты загадкавы аб’ект пабудаваў кароль кельцкага племені брытаў у памяць аб перамозе над саксамі. Згодна з паданнем, брыцкі чараўнік Мерлін працаваў усю ноч, і да раніцы Стоўнхэндж быў гатовы.*

*Іншая народная версія сцвярджала, што гэтае месца было галоўным храмам усіх друідаў, якія жылі вакол на малых ці вялікіх адлегласцях.*

*З цягам часу дачыненне кельцкіх друідаў да культавага збудавання шматразова абвяргалася і даказвалася зноў на розных узроўнях. Незлічоная колькасць акультных спрэчак і навуковых дыскусій разгортвалася вакол таямнічых камянёў.*



*З XVII стагоддзя пачаліся сталыя спробы абгрунтаваць першапачатковае прызначэнне Стоўнхэнджа з пункту погляду тагачаснай навукі. Паступова былі высветлены яго астранамічныя функцыі. Напрыклад, вылічаны адмысловыя каменныя «вокны», у якіх з'яўляліся першыя промні сонца падчас летняга і зімовага сонцастаянняў.*

*Пазней стала вядома, што па каменных схемах можна вылічаць рух месяца – гэта быў яшчэ і месяцовы каляндар. Найбольш шокавым адкрыццём сучасных астраномаў з'явіўся той факт, што ў каменных хітраспляценнях была яшчэ зашыфравана дакладная мадэль Сонечнай сістэмы ў папярочным разрэзе. Толькі колькасць планет у ёй была 12, а не 9 – вядомых сучасным астраномам. Дзве планеты знаходзіліся па-за арбітай Плутона (апошняй па ліку вядомай нам планеты), а яшчэ адна знаходзілася паміж арбітамі Марса і Юпіцера, дзе на сённяшні дзень існуе пояс астэроідаў.*



*Адна са старадаўніх рэканструкцый:*
*гравюра з малюнка А. Ван Дэйка. 1623 г.*



*Першыя промні Сонца праз камяні Стоўнхэнджа ў дзень летняга сонцастаяння, 22 чэрвеня.*




*Сучасная рэканструкцыя таго самага моманту.*

## 2. Ад сусветна вядомых загадкавых камянёў да мясцовай таямніцы. Ці пра што нагадвае нам Заазерскі лес?

Ёсць яшчэ адна версія пра паходжанне і існаванне загадкавых знакаў на тэрыторыі Англіі. Яна заключаецца ў тым, што Стоўнхэндж – адна з найвялікшых містыфікацый сучаснасці. Як і ўсе астатнія, гэтая версія, нягледзячы на статус самай крытычнай, выклікае вельмі шмат пытанняў.

Пацверджаннем таго, што каменныя збудаванні па ўсім свеце існуюць зусім не выпадкова, з'яўляецца сам па сабе факт іхнага існавання. У гэта цяжка паверыць, але на тэрыторыі Бялыніцкага раёна таксама ёсць старажытная канструкцыя, складзеная з камянёў. Яшчэ цяжэй, а дакладней – зусім немагчыма паверыць, што нехта ў лесе недалёка ад Заазерскага возера адмыслова ствараў «містыфікацыю».

Калі хтосьці і здолеў бы неверагодным чынам даказаць, што гэта ўсё ж штучная імітацыя старажытнага сакральнага комплексу – што ж, прыемна мець справу з сапраўдным майстрам-містыфікатарам. І сапраўды – што тады ў нашым недасканалым свеце не містыфікацыя?

Аднак факт застаецца фактам: недалёка ад самага чыстага і прыгожага возера з групы лясных азёраў*, знаходзіцца таямнічая круглая пляцоўка, межы якой ствараюць валуны розных памераў. Усходні бок кола ўпрыгожвае каменны крыж у рост чалавека з выемкай у «жываце». Ён стаіць «тварам» роўна на ўсход. Адпаведна, «рукі» яго накіраваныя на поўнач і поўдзень (яшчэ ён вельмі нагадвае каменны крыж на вяршыні Сьвінтара, крыж на ўездзе ў вёску Заполле і шмат яшчэ якія крыжы).

Тут трэба заўважыць, што артэфактаў, якія датычацца нашай старажытнай гісторыі становіцца ў нашым наваколлі ўсё меней і меней. Бясцэнныя сведкі мінулых тысячагоддзяў губляюцца, знікаюць, разбураюцца, забіраючы з сабой інфармацыю, якую, на жаль, ужо нельга аднавіць. Гэту праблему не раз узнімаў у сваіх працах сучасны наш літаратар, ініцыятар і натхняльнік многіх краязнаўчых праектаў не толькі на Бялынніччыне, але і ўвогуле на Магілёўшчыне, Міхась Карпечанка. Вось радкі ўзятыя з яго кнігі «Уздоўж стромы»: «Знік бясследна крыж з заазерскага капішча

*Сучасная тэрыторыя Бялыніцкага і Круглянскага раёнаў – тут разам з Заазерскім існуе ланцуг з сямі ледавіковага паходжання азёраў: Карманоўскае, Чорнае (другая назва – Курганаўскае), Пустое (у ім не водзіцца рыба, амаль што няма ніякай расліннасці), Хотам'е (Святое), Сярэдняе, Воўсіцкае.

багіні Мажаны. Хтосьці звалок камень з надпісам «Дарька» ў Лубянах. Напачатку XXI стагоддзя «чорныя археолагі» літаральна ўздоўж і ўпоперак перакапалі, перапаролі старадаўнія могілкі ў Заазер'і. Знікаюць бясследна камяні з Дзевашыцкага лугу. Разбураюцца валуны з таемнымі знакамі ў Майску, Заазер'і…

І гэты спіс нашай абыякавасці, раўнадушша да памяці, да роднай гісторыі і культуры можна доўжыць і доўжыць».

Ёсць сведчанні, што галоўны аб'ект увагі ў нашым невялікім даследаванні – сакральны комплекс з камянёў недалёка ад Заазер'я, – таксама меў зусім іншы выгляд яшчэ адносна нядаўна. Вось словы, якія належаць пісьменніку і краязнаўцу Міколу Цэлешу (1900–1974), які нарадзіўся і вырас у вёсцы Заазер'е. У сваёй «Аўтабіяграфіі» ён даваў наступнае апісанне заазерскім камяням, якое па часе адносіцца прыкладна да 1930-х гадоў:

«…Ад тых часоў «на Замку» каля возера, за кіламетр ад сучаснага Заазер'я, захаваўся старажытны могільнік, зарослы ўжо густым лесам. Бываючы ў Заазер'і, я любіў наведаць гэтае месца: шатром (па чатыры) тут стаялі моцныя, у два і больш метра ў вышыню, камяні…»



*Перад крыжам і ззаду ад яго, прыкладна на аднолькавай адлегласці, размяшчаюцца вялікія валуны.*



*Некаторыя камяні добра відаць над зямлёй, а некаторыя ледзь выходзяць на паверхню. Былі яны закапаныя адмыслова ці з часам «ураслі» ў зямлю – невядома. Таксама можа стацца, што і пад зямлёй застаюцца не бачныя воку каменныя артэфакты.*



*Ёсць месцы, дзе з камянёў ствараюцца асобныя лакальныя «фігуры».*




*Заазерскія камяні. Аматарскі эскіз алоўкам. Не ставілася мэты захаваць маштабы пляцоўкі і памеры камянёў, толькі прыкладнае месцазнаходжанне вакол крыжа (+). Зроблена зімой – далёка не ўсе камяні зафіксаваны.*



*Кола камянёў мае прыкладна метраў 30 у дыяметры.*



Ці маглі патрапіць на нашыя цяперашнія тэрыторыі старажытныя кельты? Калі ўзяць да ўвагі аб'ектыўныя факты – цалкам магчыма, калі не сказаць болей: дастаткова проста. Па-першае, – і ад узбярэжжа Балтыйскага мора, і ад летапіснай Галычыны нас аддзяляе ўсяго па некалькі соцень кіламетраў.

Па-другое, – перамяшчэнне людзей па тэрыторыях кантынента ў мінулыя эпохі адбывалася без усякіх абмежаванняў (можна прывесці па-сапраўднаму сенсацыйны прыклад – у музеі горада Урумчы (заходні Кітай) знаходзяцца целы людзей, якія былі пахаваныя ў той мясцовасці ў II і III тысячагоддзі да н. э. і неверагодным чынам захаваліся дзякуючы радовішчам солі ў пустэльні Такла-Макан. Соль адыграла ролю натуральнага «муміфікатара» – адцягвала на сябе вільгаць, якая хутка выпаралася ў сухім клімаце, і гэтая ж соль забівала мікраарганізмы. Высокія (190–200 см), еўрапеіднага віду, мужчыны і жанчыны з рудымі і карычневымі валасамі былі апрануты ў выдатна захаваныя кельцкія адзенні*).

* Брытанская даследчыца Элізабет Уэйлэнд Барбер у кнізе, прысвечанай гэтым знаходкам, апісвае сітуацыю, калі на захадзе сучаснага Кітая 3–4 тысячагоддзі таму жылі людзі еўрапейскай расы, родныя кельтам – продкам шатландцаў, ірландцаў ды іншых народаў кельцкага паходжання.

Па-трэцяе, таямнічыя Заазерскія камяні знаходзяцца побач з ланцугом вялікіх вадаёмаў. Яны, вядома, выкарыстоўваліся як водныя шляхі і прыярытэтна выбіраліся для месца сталага ці часовага пражывання старажытных вандроўнікаў.

Наступная легенда, як беспрэцэдэнтны прыклад вуснага фальклору, захавалася ў народнай памяці жыхароў заазерскага краю.

## Легенда пра Заазерскую чараўніцу

*У вельмі далёкія часы, можа быць тысячу гадоў таму, а можа і болей, каля ракі жыла адна чарадзейка. Займалася сваімі справамі, нікому дрэннага не рабіла. Наадварот, старалася дапамагаць усім, хто да яе звяртаўся – здароўе паправіць, абарону знайсці ад урокаў ды псоты, скаціну захаваць, дзетак ад бяды ўратаваць. Але аднойчы здарылася ў яе самой няшчасце – патануў у рацэ маленькі сын чарадзейкі. Цяжка перажывала жанчына страту любімага дзіцяці. І вырашыла чарадзейка пакараць раку. Загаварыла барану і ўкінула ў вір. Рака ў хуткім часе абмялела і моцна забалоцілася. І лясы, і паплавы, што былі ўздоўж ракі, зацягнуліся багнай. Небяспечнымі для чалавека сталі гэтыя мясціны.*

*Старыя людзі кажуць, што калі адшукаць тую барану і зняць закляцце – знікнуць балоты і зноў пабяжыць рака ад возера да возера.*

Міхась Карпечанка ўспамінае, што гэту легенду распавядала жыхарка Заазер’я Ганна Конанаўна Лапо. Незалежна ад яе ўзгадваў такое самае паданне цяперашні жыхар вёскі Галоўчын Віктар Ціхановіч, які нарадзіўся і вырас у суседняй з Заазер’ем вёсцы Карманаўка (побач з Карманаўскім возерам). Па словах Віктара, легенду пра раку ён не аднойчы чуў у дзяцінстве ад бацькоў і аднавяскоўцаў.

Такая інфармацыя дае падставу дапусціць, што калісьці, у старадаўнія часы, паміж азёрамі быў дакладны водны шлях.

Шмат людзей звяртаюць увагу на «Заазерскі крыж» (менавіта так многія завуць месца з комплексам разнастайных камянёў). З лёгкай рукі бялыніцкага краязнаўцы Міхася Карпечанкі месца яшчэ пачалі называць «Заазерскі Стоўнхэндж» (гл. яго артыкул з такой назвай у часопісе «Маладосць», №6, 2012).

Вельмі важна, каб на гэты старажытны аб’ект звярнулі ўвагу не толькі «чорныя капальнікі», але і сучасныя навукоўцы. «Заазерскі Стоўнхэндж» па-сапраўднаму варты сур’ёзных даследаванняў і хавае ў сабе таямніцы, якія могуць стаць сапраўднымі навуковымі адкрыццямі.



*Унутры кола ёсць свае самастойныя лініі камянёў.*



*Фота 36. Павалены валун, які нагадвае слуп.*



*Плоскі камень з выявай чалавека.*



*Падарункі, якія канфідэнцыйна пакідаюць на крыжы таямнічыя наведвальнікі (цукеркі і сушкі). Часам можна сустрэць завязаныя стужкі ці хустачкі. Але ніколі не ўбачыш, хто гэта робіць. Людзі звяртаюцца да сваіх продкаў па вельмі асабістых справах.*

## Эпілог

Наша вандроўка заканчваецца, але не выключаецца верагоднасць яе працягу. Які ён будзе – цяпер меркаваць цяжка. Аднак тое, што на гэтым цікавым шляху нас чакаюць сюрпрызы, неверагодныя адкрыцці, а можа нават і сенсацыі, уяўляецца цалкам магчымым. Удалага вам плавання!



## Крыніцы

Генадзь Сагановіч. *Нарыс гісторыі Беларусі*. Мінск, 2001.
Уладзімір Арлоў, Генадзь Сагановіч. *Дзесяць вякоў беларускай гісторыі*. Вільня, 2000.
Уладзімір Арлоў. *Адкуль наш род*. Вільня, 2000.
Пітэр Браўн. *Стоўнхэндж. Таямніцы мегалітаў*. Пер. з анг. Е. Б. Межэвіцінава, М., 2010.
Ірына Масляніцына, Мікола Багадзяж. *Беларусь далетапісная*. Мінск, 2010.
Леру Франсуаза. *Друіды*. Пер. з франц. Цветковай С. О. СПб., 2003.
Міхась Карпечанка. *Уздоўж стромы*. Мінск: Выдавец В. Хурсік, 2007.
Матэрыялы Вікіпедыі.
www.abc-people.com
www.myfhology.info
www.ec-dejavu.ru
www.tio.by

**Мастак:**
Кашкурэвіч Арлен Міхайлавіч («Неўры», рэпрадукцыя).

**Фота:**
А. Мяцеліцы (1, 8, 9, 11–14, 16),
аўтара (2,7, 29–36, 38),
Д. Лепейкі (19, 20),
В. Ляйкоўскай (22),
TIO.BY (24),
abc-people.com (25, 28),
ec-dejavu.ru (26, 27),
М. Карпечанкі (37),
М. Мяцеліцы (39),
Спадарыня Н. передала здымкі з прыватнай калекцыі (4, 5, 6, 23).

# Змест

